НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 42 (927) 11 лістапада 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Як нашыя ўсходнія саюзнікі «дынамяць» беларускае войска**

Старонка 6.



# Жывіце багата

Ад 1 ліпеня 2016 беларусы пачнуць карыстацца новымі грашыма. Сем пытанняў і адказаў пра дэнамінацыю. **Старонка 5.**



**Газета выступіла. Што зроблена?**

## «Трэнера адхілілі, заняткі спыненыя, у МУС ідзе разбор палётаў»

Улады адрэагавалі на артыкул пра казацкіх «воінаў Хрыста».

У інтэрнэце з'явіўся «адкрыты ліст» ад жанчыны, якая назвалася маці аднаго з выхаванцаў праваслаўнага «вайскова-патрыятычнага» клуба «Славяне».

У гэтым лісце жанчына бароніць клуб, што займаецца выхаваннем юнакоў у рускім нацыяналістычным духу.

Сама жанчына не раскрывае ніякіх акалічнасцяў рэакцыі ўладаў.

Аднак пра гэта піша адзін з яе аднадумцаў, таксама гродзенец, які падтрымлівае жанчыну.

«У нас у Гродне ўсё вельмі сур'ёзна. «Свядомыя» радасна пацiраюць потныя далоні — 1:0 на іх карысць. Пакуль. Збіраем подпісы. Трэнера адхілілі. У Мінску, у МУС, ідзе разбор палётаў. Заняткі спыненыя, дзеці засмучаныя. Адчуваюць здраду. Адказваю за кожнае слова, усё — праўда», — сцвярджае нейкі Марат.

Большасць каментатараў, аднак, заклікалі жанчыну і Марата адумацца.

Нагадаем, нядаўна «Наша Ніва» апублікавала матэрыял, у якім даводзіліся факты, што ў праваслаўных «вайскова-патрыятычных» клубах Гродзенскай епархіі з дзецьмі працуюць інструктары з прарасійскіх арганізацый.

**АЯ**



## Пяць фактаў пра новага кіраўніка Следчага камітэта Івана Наскевіча

Шаеў у адстаўцы «па дамове бакоў». **Старонка 3.**

## Знішчаны наклад кнігі Сіліцкага

Выданне мела стаць помнікам палітолагу, які памёр у 38. **Старонка 2.**

## Чакаем Алеся Юркойця

Піша Усевалад Сцебурака. **Старонка 10.**

## Восень, выбары, у Бога не верыце? Компас згублены

Дзённік мінчука, які пераехаў у дзедаву хату на Палессе. Частка III. **Старонка 12—15.**

# Раптоўна памёр грамадскі лідар Баранавіч Віктар Сырыца

Старшыня Баранавіцкай суполкі Таварыства беларускай мовы быў душой горада. Колькі ён помнікаў паставіў, колькі сустрэч у школах арганізаваў, колькім людзям дапамог уладкавацца. А колькі было ў яго ў планах!

Сэрца ў яго раптоўна спынілася раніцай 9 лістапада на пероне Цэнтральнага вакзала горада.

Дактары рэанімабіля, якія прыбылі на месца здарэння, не здолелі выратаваць спадара Сырыцу.

У 2006 годзе яго звольнілі з работы ў вучылішчы, дзе ён выкладаў, за падтрымку апазіцыйнага кандыдата ў прэзідэнты. Ён не склаў рук.

Пражыў ён 62 гады. Памяць пра яго будзе добрая.

**«Наша Ніва»**



### «Ён быў эталонам інтэлігента»

Не стала Віктара Антонавіча. Менавіта ён паказаў нам сапраўдную гісторыю Беларусі. Навучыў любіць мову і культуру. Ён распавёў нам пра подзвігі нашага народа пад Палонкай, пра філаматаў ды філарэтаў, пра Зламаны Колас пад Баранавічамі (па легендзе Віктара Антонавіча, менавіта адтуль з'явілася назва майго любімага рамана «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча). Дзякуючы яму, я пазнаёміўся з вялікай колькасцю легендарных беларусаў. Ён быў нам, баранавіцкай моладзі, найлепшым сябрам і настаўнікам. Заўсёды запросіць да сябе, напоіць гарбатай ды распавядзе пару цікавых гісторый. Нам будзе яго не хапаць... Баранавічы згубілі сваю душу. Дзякуй вам, Віктар Антонавіч, за ўсё! Вечная памяць!

**Павел Самалазаў**

Гэты чалавек быў эталонам беларускага інтэлігента.

**Дзмітры Гурневіч**

Светлы чалавек быў, праўдзівы інтэлігент, сціплы і працавіты. Мне лісты з маральнай падтрымкаю пісаў, калі я сядзеў у калоніі. Будзе яго моцна не хапаць.

**Алесь Бяляцкі**

Дзіўна светлая асоба, інтэлігентны, мяккі і разам з тым рашучы, моцны духам. Ён так глыбока і самааддана любіў Беларусь, жыў ёй і служыў ёй. Светлая памяць светламу чалавеку!

**Аляксандр Мілінкевіч**

Як жа ж так, Віктар Антонавіч? Больш за 20 год Вы былі маёй надзейнай апорай, арыенцірам, маім Настаўнікам. Гэты свет ніколі не быў варты Вас, але рабіўся лепшым дзякуючы Вам. Які кароткі час нам быў адведзены, каб вучыцца ў Вас... Цяпер анёлы будуць свяцлець ад вашай усмешкі і мудрасці. Светлы рай...

**Крысціна Вітушка**

З глыбокім смуткам даведаўся пра раптоўную смерць Віктара Сырыцы. Вялікая страта для беларускай справы. Мужны і годны чалавек, сапраўдны патрыёт. Пасля звальнення з працы, пасля спробаў завесці супраць яго крымінальную справу, падкінуўшы падчас хатняга вобшуку баявыя патроны ў ягоную кватэру. Папулярызацыя мовы і гісторыі, яднанне дэмакратычных сілаў, актыўны ўдзел у палітычных кампаніях — як ён паспяваў усё гэта... Я асабіста ўдзячны яму за ягоныя лісты да мяне ў турму, за тое, што пастаянна наведваў і падтрымліваў майго бацьку, пакуль я там быў. Хай зямля будзе табе пухам, Віктар.

**Мікола Статкевіч**

З аднаго боку, думаеш: як так?.. А з іншага: а што дзіўнага, калі чалавек, не шкадуючы сябе, аддаючы ўсяго сябе, нястомна столькі гадоў так шчыра працаваў... А згрызот гэтых усякіх колькі перанесці давялося — суды, штрафы, суткі, звальненне... Вечная памяць! Героям слава!

**Алесь Горбач**

Найвялікшая страта для Баранавіч і не толькі.

**Валер Краўчэня**

Спачуванні родным і сваякам сп. Віктара. Добразычлівы, шчыры, сумленны чалавек. Светлая памяць!

**Галіна Скараход**

Не магу паверыць! Якая страта! Гэта быў сапраўдны беларус, інтэлігент!

**Юрась Бабіч**

Светлая, вечная памяць!

**Андрэй Ляховіч**

## Сцісла

**У Казахстане чарговая дэвальвацыя**

У канцы жніўня даляр каштаваў 190 тэнге, а цяпер курс дасягнуў ужо 305 тэнге. Нацбанк Казахстана з мэтай захавання золатавалютных рэзерваў мінімізаваў свой удзел на валютным рынку.

**Парфянкоў атрымаў украінскае грамадзянства**

На былога палітвязня Васіля Парфянкова, што ваюе ў Данбасе, у Беларусі заведзеныя дзве крымінальныя справы, адна з якіх за наёмніцтва. СБУ накіравала запыт у КДБ, а пасля пацвярджэння інфармацыі хадайнічала аб выдачы ўкраінскага пашпарта.

**Кадэт з «Пагоняй»**

Аўтар фота з «Пагоняй» Мікіта Гвоздзеў вярнуўся на вучобу ў Ястрамбельскую кадэцкую вучэльню. Адразу пасля публікацыі гэтага здымка паведамлялася, што Мікіту адлічылі і бацькі забралі яго дадому. Аднак пасля розгаласу ў СМІ дырэктар вучэльні выбачыўся перад хлопцам і прасіў яго вярнуцца.

**Курэнне на вакзалах забароняць**

Беларуская чыгунка абсталюе на вакзалах спецыяльныя месцы для курэння, на астатняй тэрыторыі гэта будзе забаронена. Парушальнікам пагражае штраф да 720 тысяч рублёў.

**ЯМ, СГ, АЯ**

Дзе варта быць

## «Праўда пра Курапаты» ў Палацы мастацтваў

У сталічным Палацы мастацтваў адкрыецца першая ў Беларусі дакументальна-мастацкая выстава «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».

Яе адкрыццё запланаванае на пятніцу, 13 лістапада — а 17-й.

Экспазіцыя распавядзе пра мінулае Курапатаў, пра першаадкрывальнікаў Нацыянальнага некропаля і яго абаронцаў, пра ахвяраў сталінізму. На выставе можна будзе даведацца пра незвычайныя факты, убачыць унікальныя дакументы, здымкі, кінастужкі і творы выяўленчага мастацтва. Плануецца прэзентацыя стужкі Міхася Жданоўскага «Дарога на Курапаты» і стужкі Вольгі Мікалайчык «Я — голас Курапатаў». Працягнецца выстава да 16 лістапада ўключна.

## Знішчаны наклад пасмяротнай кнігі Віталя Сіліцкага

Палітолаг параўнаў рэжымы Слабадана Мілошавіча і Аляксандра Лукашэнкі.

«Так, наклад знішчаны. Знішчаны па загадзе з Міністэрства інфармацыі, — заявіў дырэктар друкарні «Палікрафт» Фёдар Басько. — Нам сказалі, што калі гэтага не зробім, то тыпаграфію зачыняць. Зрэшты, самі вінаватыя — не глядзелі, што друкуем. Калі б я гэтую кнігу ўбачыў раней, то друкаваць мы не сталі б».




Кніга выйшла некалькі тыдняў таму. «У вашых руках пасмяротная кніга Віталя Сіліцкага. Кніга, якую Віталь не дапісаў. Кніга — працяг даследавання «Адкладзеная свабода: посткамуністычны аўтарытарызм у Сербіі і Беларусі», якое публікавалася ў 2003 годзе ў часопісе «Arche» і было выдадзена асобнай кнігай у 2012 годзе — праз год па адыходзе Віталя», — пісалася ў анатацыі.

У сваёй кнізе Віталь Сіліцкі параўнаў рэжым Слабадана Мілошавіча ў Югаславіі 1990-х і Лукашэнкі ў Беларусі. Тыраж кнігі складаў 1000 асобнікаў.

Афіцыйна ў Беларусі дзейнічае канстытуцыйная норма аб свабодзе слова, а папярэдняя цэнзура забаронена.

**Арцём Гарбацэвіч**



Віталь Сіліцкі — палітолаг, першы дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў. Ён памёр у 38 гадоў ад раку, кніга мела стаць пасмяротным помнікам яму.

## Апытанні на nn.by

**Як па-Вашаму, ці маюць уплыў у атачэнні Лукашэнкі прыхільнікі еўрапейскага выбару?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 135 | 12% |
| Не | 256 | 23% |
| Гэта не мае значэння ў сітуацыі, калі галоўныя рашэнні прымае адзін чалавек | 707 | 64% |

Прагаласавала 1098 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 4—10 лістапада

1 Абвешчаная дэнамінацыя: з 2016 года ў Беларусі з'явяцца манеты, а банкноты зменяць выгляд

2 Ірына Абельская на інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі — фота

3 Пяць пытанняў і адказаў пра абвешчаную дэнамінацыю

4 Цікавы выпадак на грузінскай праграме «Што? Дзе? Калі?» — відэа

5 Хто сядзеў у першым шэрагу на інаўгурацыі Лукашэнкі — фота

6 «Трэнера адхілілі, заняткі спыненыя, у МУС ідзе разбор палётаў» — улады адрэагавалі на артыкул пра казацкіх «воінаў Хрыста»

7 «Злыя маскалі» супраць БЧБ: рускі нацыяналіст вырабіў сабе антыбеларускую майку

8 Інаўгурацыя Лукашэнкі ў тварах — фота

9 Шманай, Санковіч, Чаркашына — каго з дзяўчат запрасілі на інаўгурацыю Лукашэнкі — фота

10 На новыя грошы вернецца старая арфаграфічная памылка — фота

# Лукашэнка на інаўгурацыі: Рэформаў не будзе

Найбольш цікавыя моманты інаўгурацыі Лукашэнкі зафіксавала «НН».

• Гэта пятая інаўгурацыя Лукашэнкі.

• Упершыню яна адбывалася ў Палацы Незалежнасці. Раней Лукашэнка прысягаў у Вярхоўным Савеце і Палацы Рэспублікі на Кастрычніцкай плошчы.

• Прэзідэнцкі картэж, які ехаў ад Драздоў, суправаджалі 9 матацыклістаў і 3 машыны з мігалкамі.

• Лукашэнка ехаў пустой дарогай. Рух у раёне праспекта Пераможцаў быў цалкам перакрыты.

• Прысягу Лукашэнка чытаў па-беларуску, наступную прамову — па-руску.

• З вітальнымі словамі выступілі: старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, кіраўнік Канстытуцыйнага суда Пятро Міклашэвіч, спікер савета рэспублікі Міхаіл Мясніковіч.

• «Да здравствует Александр Лукашенко! Да здравствует Беларусь!» — сказаў Мясніковіч.

• Лукашэнка не спяваў дзяржаўны гімн. Большасць чыноўнікаў спявала.

• «Ужо занадта шмат сёння кажуць і пішуць аб структурных рэформах, і ніхто не сказаў, што гэта за рэформы. Што гэта за структурныя рэформы? Але калі нехта за рэформы, то будзьце сумленныя і скажыце, што трэба зламаць палітычны лад, дзяржаўны лад. Трэба падзяліць, разрэзаць дзяржаўную ўласнасць! І раздаць! На гэта нас штурхаюць рэформы. І за гэтыя рэформы сёй-той сёння ў свеце гатовы шмат заплаціць. Задайце сабе пытанне: «Нам патрэбны такія рэформы?» — прамаўляў Лукашэнка. Мабыць, гэта тычыцца нядаўніх прапановаў памочніка Лукашэнкі па эканоміцы Кірыла Рудага.

• У інтэрнэце адразу пачалі жартаваць. Маўляў, некалі Лукашэнка казаў, што і дэвальвацыі не будзе.

• Ніхто з лідараў суседніх краін не быў прадстаўлены на інаўгурацыі.

• Расію прадстаўляў шматгадовы лідар камуністаў Генадзь Зюганаў, а Кітай — намеснік міністра камерцыі.

• У першым шэрагу сядзела толькі адна жанчына — біятланістка Дар'я Домрачава.

• На інаўгурацыі прысутнічалі ўсе жывыя на сённяшні дзень Героі Беларусі: Домрачава, мітрапаліт Філарэт, былы дырэктар «БелАЗа» Павел Марыеў, старшыня праўлення СПК «Прагрэс-Верцялішкі» Васіль Равяка, банкір Пятро Пракаповіч.

• Нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч на мерапрыемстве не было. Затое быў расійскі фізік Жарэс Алфёраў, таксама ўладальнік Нобеля.


PRESIDENT.GOV.BY

Простыя выбарцы не маглі прыйсці павітаць Аляксандра Лукашэнку. Інаўгурацыя — мерапрыемства для абраных.




Сыны Лукашэнкі сядзелі крыху ўбаку ад асноўных шэрагаў.

• Дзеці Лукашэнкі сядзелі разам, але не ў агульных шэрагах, а крыху збоку. Побач з імі знаходзілася прэс-сакратарка кіраўніка краіны Ганна Эйсмант.

• З чыноўнікаў месца ў першым шэрагу заслужылі: прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец, а таксама ягоныя намеснікі Канстанцін Мартынецкі і Ігар Бузоўскі, кіраўнік спраў прэзідэнта Віктар Шэйман, дзяржсакратар Рады бяспекі Станіслаў Зась, старшыня КДК Леанід Анфімаў, генпракурор Аляксандр Канюк, кіраўнік Нацбанка Павел Калаўр.

• Старшыня КДБ Валерый Вакульчык і міністр замежных спраў Уладзімір Макей сядзелі на далейшых шэрагах.

• Пасля цывільнай часткі Лукашэнка пераадзеўся ў форму галоўнакамандуючага і на плошчы Дзяржаўнага сцяга прымаў прысягу ад вайскоўцаў.

• Прадстаўнікі Узброеных сілаў, унутраных войскаў, КДБ, пагранічнікаў, службы бяспекі прэзідэнта, МУС, МНС агучылі «клятву на вернасць беларускаму народу і прэзідэнту».

• У Міністэрстве абароны запэўнілі, што гэтая клятва не з'яўляецца вайсковай прысягай.

• Аляксандр Лукашэнка запэўніў, што гатовы служыць народу «да апошніх дзён, колькі ён будзе даваць».

• У зале былі кандыдаты ў прэзідэнты Сяргей Гайдукевіч і Мікалай Улаховіч. Таццяна Караткевіч, хоць і мела запрашэнне, адмовілася прыйсці на інаўгурацыю.

• На апошніх шэрагах сядзела былая асабістая доктарка Лукашэнкі Ірына Абельская, якая цяпер узначальвае Лечкамісію.

• Было дастаткова шмат маладых дзяўчат. Напрыклад, былыя гімнасткі Любоў Чаркашына (давераная асоба Лукашэнкі на выбарах) і Ксенія Санковіч. Спявачкі — Алёна Ланская і Дар'я, тэлевядучая Марына Грыцук, Дар'я Шманай, якая некалі хадзіла ў суправаджэнні Лукашэнкі на хакей.

• Пасля інаўгурацыі ў Палацы Рэспублікі адбыўся святочны канцэрт. Большасць выканаўцаў (Ярмоленка, Афанасьева, Ялфімаў) спявалі па-беларуску.

**Зміцер Панкавец, Ягор Марціновіч**


KP.BY

Вядомыя спартоўкі Дар'я Домрачава і Ксенія Санковіч.



Ірына Абельская таксама прысутнічала на афіцыйным мерапрыемстве.

## Лукашэнка: Мы не настолькі багатыя, каб утрымліваць лішнюю колькасць сілавых структур

У Беларусі комплексна ацэняць стан спраў у сферы нацыянальнай бяспекі.

Пра гэта заявіў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе з сілавікамі.

У прыватнасці, гаворка ідзе пра тое, наколькі эфектыўна яна зможа процідзейнічаць сённяшнім выклікам. Немалаважна таксама, наколькі сілавікі гатовыя да розных варыянтаў развіцця сітуацыі ў свеце, ці здольныя яны рэальна спрагназаваць і папярэдзіць магчымыя негатыўныя наступствы — акрэсліў кола пытанняў кіраўнік дзяржавы.

«Для гэтага кожнаму ведамству неабходна не толькі эфектыўна вырашаць задачы, але і мець глыбока прадуманую стратэгію сваёй дзейнасці», — сказаў Лукашэнка. Адсюль патрабаванні да наяўнасці канкрэтных планаў, напрамкаў дзейнасці таго ці іншага ведамства.

Кіраўнік дзяржавы таксама звярнуў увагу на такі аспект, як аптымізацыя сіл і сродкаў, якія задзейнічаны ў краіне для забеспячэння дзейнасці сілавых структур.

«Мы не такія багатыя, каб утрымліваць лішнюю колькасць сілавых структур. У той жа час і спрашчэнствам займацца нельга. У адваротным выпадку можна даскарачацца да таго, што ў нас сістэма будзе, але яна акажацца непрацаздольнай», — перасцярог Аляксандр Лукашэнка.

«Трэба пазбавіцца ад лішніх, часам надуманых функцый, у тым ліку кантрольных, выключыць непатрэбнае дубляванне працы ведамстваў», — прадоўжыў ён.

**Паводле БелТА**

## Канстанцін Радзівіл стане міністрам аховы здароўя Польшчы

9 лістапада на прэс-канферэнцыі кіраўнікі партыі «Права і справядлівасць» Беата Шыдла і Яраслаў Качыньскі назвалі склад будучага ўрада Польшчы.

Агулам названыя прозвішчы 23 міністраў. Відаць, праз нейкі час будзе таксама названае імя міністра эканомікі. Звяртае ўвагу, што ў Польшчы, напрыклад, ёсць Міністэрства лічбавых тэхналогій, якога няма ў Беларусі.

Новым міністрам аховы здароўя стане 57-гадовы Канстанцін Радзівіл. Ён прадстаўнік старажытнага княскага роду Радзівілаў, але таго адгалінавання, што жылі на тэрыторыі Польшчы, а не Беларусі.

Канстанцін Радзівіл па спецыялізацыі сямейны лекар, вучыўся ў Варшаве. У часы Салідарнасці быў сябрам Незалежнага саюза студэнтаў. Ад 1997 з'яўляецца ўладальнікам шпіталя сямейнай медыцыны. Кавалер ордэна Адраджэння Польшчы.

**ЗП**

# Пяць фактаў пра новага кіраўніка Следчага камітэта Івана Наскевіча

4 лістапада кіраўнік Следчага камітэта Валянцін Шаеў быў адпраўлены ў адстаўку па «згодзе бакоў». Праз тыдзень гэтую пасаду заняў **пракурор Брэсцкай вобласці** Іван Наскевіч. «НН» сабрала цікавыя факты пра сілавіка.



### Родам з глыбокага Палесся

Іван Наскевіч нарадзіўся ў 1970 годзе ў вёсцы Цераблічы Столінскага раёна. Гэта самы край Палесся, далей на поўдзень толькі Альманскія балоты, а найбліжэйшыя населеныя пункты — ужо на ўкраінскай тэрыторыі. Зусім побач ад Цераблічаў знаходзіцца славутая вёска Альшаны, так званая агурковая сталіца Беларусі.

Што тычыцца саміх Цераблічаў, то там ледзьве не палова жыхароў мае прозвішча Наскевіч. Сам Іван расказваў, што ў дзяцінстве дапамагаў у бібліятэцы Івану Супрунчыку. Сёння гэта вядомы ў краіне краязнаўца, народны майстар.

Роўна год назад у Цераблічах быў адкрыты праваслаўны храм Уваскрасення Хрыстова, вялікі ўклад у яго будаўніцтва ўнёс Іван Наскевіч.

### Не паступіў у БДУ, служыў у ГДР

Школу Іван Наскевіч скончыў з залатым медалём. Але паступіць на юрыдычны факультэт БДУ яму гэтак і не ўдалося. Як піша газета «Вечерній Брест», першы экзамен Наскевіч здаў на чацвёрку па пяцібальнай сістэме, а пры конкурсе 10 чалавек на месца проста не стаў чакаць наступных, а з'ехаў у вёску. Цэлы год Наскевіч адпрацаваў у калгасе, адначасова рыхтаваўся да экзаменаў.

Але здаваць іх паўторна не давялося. Прыйшоў час ісці ў войска. Іван Наскевіч апынуўся ў ГДР.

### Атрымаў грамадзянства Беларусі толькі ў 1995

Пасля службы ў войску Іван Наскевіч накіраваўся ў Харкаў, ва Украінскую дзяржаўную юрыдычную акадэмію. Вучобу ён скончыў у 1995-м годзе, пасля чаго прыняў рашэнне вярнуцца на радзіму.

І тут адбыўся цікавы юрыдычны казус. Пры ўладкаванні на працу ў Пінскую пракуратуру высветлілася, што ў Наскевіча... няма беларускага грамадзянства. У яго заставаўся ўсё яшчэ стары савецкі пашпарт. Праблему ўдалося вырашыць праз паўгода, пасля гэтага малады спецыяліст распачаў работу.

Ён узгадваў сваю першую справу, якой яму даручылі займацца ў якасці следчага. Гэта была спроба крадзяжу банкі фарбы з пінскага хімзавода. «Далі штраф», — узгадваў пракурорскі работнік.

У 2007 годзе ён стаў пракурорам Пінскага раёна, а ў 2012 — Брэсцкай вобласці.

### Прыхільнік смяротнага пакарання

Іван Наскевіч у свой час высока ацаніў стварэнне Следчага камітэта, хоць сам і застаўся працаваць у органах пракуратуры.

Выступіў Іван Наскевіч за захаванне смяротнага пакарання на цяперашнім этапе.

«Магчыма, праз нейкі час мы прыйдзем да таго, што смяротнае пакаранне трэ' будзе адмяніць. Але пакуль яно апраўданае, у выключных выпадках. Хоць трэба разумець, што такія прысуды павінны быць вельмі ўзважанымі».

Дарэчы, цікавы выпадак адбыўся паміж пракуратурай і следчым камітэтам Брэсцкай вобласці ў пачатку мінулага года. Следчы камітэт адмовіўся завесці крымінальную справу за педафілію супраць галоўнага рэдактара газеты «Вечерній Брест». СК не знайшоў складу злачынства ў дзеяннях рэдактара. Аднак пракуратура адмяняла гэтае рашэнне, тлумачачы, што не была праведзеная поўная праверка. Аднак да суда справу так і не давялі.

### Гісторыя кахання з прысмакам забойства

Сваю абранніцу Іван Наскевіч сустрэў у Пінску. Дзяўчына па імені Ірына працавала правізарам у аптэцы. Аднойчы недалёка ад месца яе працы адбылося забойства, а ў якасці панятых следчыя пракуратуры запрасілі супрацоўніц аптэкі. Праз нейкі час Наскевіч выклікаў Ірыну ў пракуратуру позваю, а пасля запрасіў на спатканне. Шлюб пара заключыла ў 1997 годзе.

Цяпер у Івана Наскевіча з жонкай трое дзяцей: двое хлопчыкаў і дзяўчынка.

**Зміцер Панкавец**



**Зася зацвердзілі ў Радзе бяспекі**

Чатыры месяцы Станіслаў Зась з'яўляўся выконваючым абавязкі кіраўніка Следчага камітэта. Была тэорыя, што пасля выбараў на гэтую пасаду прызначаць больш уплывовага чалавека. Аднак Лукашэнка зацвердзіў менавіта Зася. Яму 51 год, а родам з Чарнігаўскай вобласці Украіны. Вучыўся ў Мінскім сувораўскім вучылішчы, Бакінскім вышэйшым агульнавайсковым камандным вучылішчы, Вайсковай акадэміі Беларусі, Вайсковай акадэміі Генеральнага штаба Расіі. Кандыдат вайсковых навук. Тэарэтык асіметрычнай вайны. Гэта калі адзін з бакоў значна пераўышае другі ў сіле. Праходзіў службу і працаваў ва Узброеных сілах, МУС, КДБ, Памежных войсках. Да апошняга прызначэння быў намеснікам дзяржсакратара Рады бяспекі.

ЗП

# Студэнты на мітынгу камуністаў: Папрасілі прыйсці за чатыры гадзіны адпрацоўкі

Ці няма тут выкарыстання **службовага становішча**?

7 лістапада на плошчы Незалежнасці прайшоў мітынг у гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Сярод яго ўдзельнікаў было шмат студэнтаў. Некаторыя з іх прызналіся карэспандэнтам «НН», што іх «папрасілі» прыйсці ва ўніверсітэце ці інтэрнаце.

Асабліва нечаканымі аказаліся наступныя выказванні.

**Студэнтка БДЭУ:** Нас запрасілі выхавацелі, мы з інтэрната.

**«НН»:** Што яны вам сказалі: «Прыходзьце сюды»?

**Студэнтка БДЭУ:** Чатыры гадзіны адпрацоўкі.

**«НН»:** Шмат хто прыйшоў з вашага інтэрната?

**Студэнтка БДЭУ:** Пятнаццаць чалавек.

* * *

Супрацоўніцы дзіцячых садкоў: «Нас адпраўлялі ад дзіцячых садкоў, адпраўлялі кіраўнік, загадчыца і метадыст. Добраахвотна адправілі сюды».

* * *

**Студэнт БДЭУ, факультэт фінансаў і банкаўскай справы:** «Прыйшоў, бо ўвесь наш універсітэт ідзе. Сказалі набраць 15 чалавек, каб прыйсці пастаяць на плошчы Незалежнасці».

* * *

**Студэнт ПІД:** Нас папрасілі прыйсці, прыйшло чалавек шэсць з групы.

**«НН»:** А што тут увогуле адбываецца?

**Студэнт ПІД:** Не ведаю, мы яшчэ не знайшлі чалавека, які павінен нам патлумачыць, што рабіць.

* * *

**«НН»:** У суседняй Украіне помнікі Леніну звальваюць з п'едэсталаў. Што вы пра гэта думаеце?

**Хлопец у куртцы з надпісам «Камуністычная партыя Беларусі»:** Не ведаю, я палітыкай не цікаўлюся.

* * *

Ігар Карпенка, лідар Камуністычнай партыі Беларусі выказаўся наконт забароны савецкай сімволікі: «Тое, што сёння ў некаторых краінах спрабуюць забараніць гэту сімволіку [серп і молат — НН], гэта раўнацэнна таму, каб забараніць сонцу ўзыходзіць над зямлёй ці каб зямны шар перастаў круціцца. Таму забараніць гэта немагчыма. Ідэі знаходзяцца ў сэрцы, у розуме».



**Намеснік старшыні мінскага гарвыканкама Ігар Карпенка.**

Варта адзначыць, што Ігар Карпенка не толькі лідар Камуністычнай партыі, але і намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама. Вось і ўзнікае пытанне: ці няма тут злоўжывання, калі на акцыю з удзелам гарадскога начальніка зганяюць студэнтаў і бюджэтнікаў?

**Аксана Рудовіч, Мікіта Недаверкаў**

### Стваральнік сайта 1863х.com сцвярджае, што яго арыштоўвалі, завялі крымінальныя справы

Ён **з'ехаў ва Украіну.**

Пры гэтым ён па-ранейшаму захоўвае ананімнасць для публікі, бо не хоча пераходзіць «у публічную палітыку»

На сайце 1863х.com з'явілася інфармацыя, што яго стваральнік ад 5 мая да 4 чэрвеня правёў пад арыштам і на судова-псіхічнай экспертызе.

Супраць яго былі распачатыя дзве крымінальныя справы: нібыта за распальванне міжнацыянальнай варожасці і распаўсюд парнаграфіі.

Заснавальнік вострага сайта 1863х.com, які часам публікаваў смелыя расследаванні, сапраўды не з'яўляўся ў сеціве месяц.

Персанаж, вядомы ў інтэрнэце як *Jhon Silver*, не выходзіў на сувязь з 4 мая. Гэтым жа днём датавалася ягоная апошняя публікацыя ў сацыяльнай сетцы *Facebook*. Ён аднавіў свае пасты пасля 5 чэрвеня.

Сайт вядзецца ягоным заснавальнікам на ўмовах поўнай ананімнасці — ніхто не ведае ні ягонага сапраўднага імя, ні прозвішча, ні выгляду. Таму Інтэрнэт з'яўляецца адзіным сродкам сувязі з ім. Праз яго ён трымаў сувязь з аўтарамі і даваў інтэрв'ю.

**Мікола Бугай**

# Сем пытанняў і адказаў пра дэнамінацыю

Праз паўгода беларусы пачнуць карыстацца новымі грашыма. Дэнамінацыя, запланаваная на 1 ліпеня 2016 года, спросціць разлікі, але не зробіць нікога ні беднейшым, ні багацейшым. Гэта не сумнавядомая рэформа Паўлава — мяняць банкноты на новыя можна без абмежаванняў.







### 1. Колькі нулёў адкінецца?

Цяперашнія 10 тысяч рублёў стануць 1 новым рублём. Адкінуць чатыры нулі.

### 2. Якія з'явяцца банкноты і манеты?

100 цяперашніх рублёў стануць 1 капейкай.

Адбілі 1, 2, 5, 10, 20 і 50 капеек, а таксама 1 і 2 рублі.

Апроч таго, надрукавана сем наміналаў банкнот: 5, 10, 20, 50, 100, 200 і 500 рублёў. Сярэдні заробак «чыстымі» цяпер складае 590 «новых» рублёў. Многія змогуць атрымаць зарплату адной паперкай.

### 3. Навошта манеты?

Беларусь страціць статус апошняй у Еўропе краіны, якая не выкарыстоўвае манеты. Перадусім гэта робіцца для эканоміі.

«Тэрмін службы манеты складае ад 10 да 15 гадоў, а тэрмін службы банкноты дробнага наміналу — ад 6 да 12 месяцаў у найлепшым выпадку», — тлумачыць намеснік старшыні Нацбанка Дзмітрый Лапко.

Але ж за апошнія 10 гадоў беларускі рубель паставіў рэкорд абясцэньвання: у 8 разоў! Ужо сёння паўхлеба будзе каштаваць капеек 50.

### 4. А здача будзе?

Усе прадаўцы просяць пашукаць драбнейшыя купюры. Пасля дэнамінацыі сітуацыя зменіцца.

Пакуль што ў абарачэнні знаходзіцца прыкладна 600 мільёнаў старых банкнот.

Замест іх выпускаюць усяго 80 мільёнаў новых папяровых банкнот і 400 мільёнаў манет.

Паколькі найменшая новая папяровая банкнота адпавядае цяперашнім 50 тысячам рублёў, чакаецца, што ўсе дробныя плацяжы будуць ажыццяўляцца манетамі.

### 5. Колькі часу будуць хадзіць старыя грошы?

Для Беларусі гэта будзе ўжо трэцяя дэнамінацыя, таму схема замены грошай адпрацаваная. На працягу паўгода (ад 1 ліпеня 2016 да 31 снежня 2016) можна будзе разлічыцца ў любой краме і старымі, і новымі банкнотамі. Адпаведна будуць указвацца і дзве цаны.

Наступныя тры гады (2017—2019) старыя банкноты можна будзе абмяняць у банках.

### 6. Чаму новыя банкноты ажно за 2009 год?

Дэнамінацыю планавалі праводзіць яшчэ шэсць гадоў таму, адкінуўшы тры нулі. Тады і надрукавалі грошы. Адпаведна, на іх пазначаны подпіс тагачаснага старшыні Нацбанка Пятра Пракаповіча. Аднак праз крызіс і дэвальвацыі рэформу адклалі. Цяпер грошы дастануць з запаснікаў.

На ўзорах новых банкнот выкарыстоўваецца слова «пяцьдзесят». Напісанне адпавядала правапісу, які дзейнічаў на час друку грошай. Аднак у 2010 годзе ўступілі ў сілу новыя правілы арфаграфіі, паводле якіх замест «пяцьдзЕсят» мусіць пісацца «пяцьдзЯсят». Памылку выправяць пры друку новых партый грошай.

### 7. Нашто трэба дэнамінацыя?

Цэны ў Беларусі раслі так хутка, што кожны жыхар краіны стаў мільянерам. Гэта нязручна, а яшчэ і смешна для турыстаў. Таму дэнамінацыя спросціць разлікі і ўспрыманне цэнаў.

Аднак анансаванне дэнамінацыі менавіта ў такі дзень, перад інаўгурацыяй, — яшчэ і піяр-ход, і заяўка на новы эканамічны курс.

**Ягор Марціновіч**




**Што намалявана на новых грошах?**

5 рублёў — Камянецкая вежа

10 рублёў — Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку

20 рублёў — Палац Паскевічаў у Гомелі

50 рублёў — Мірскі замак

100 рублёў — замак у Нясвіжы

200 рублёў — Магілёўскі музей імя Масленікава

500 рублёў — Нацыянальная бібліятэка

Новыя банкноты надрукаваныя ў Вялікабрытаніі, манеты адчаканілі ў Літве і Славакіі. Цяперашнія беларускія грошы рабілі ў Расіі.

## «Новыя грошы выглядаюць бездапаможна»

Выгляд новых грошай аналізуе мастацтвазнаўца **Сяргей Харэўскі.**



«Я збіраю металічныя грошы розных краін. На фоне маёй калекцыі прапанаваныя беларускія грошы блякнуць.

Вельмі расчаравалі капейкі. Тым больш што юбілейныя беларускія манеты выконваюць вельмі прафесійна, яны атрымлівалі прэстыжныя міжнародныя прэміі. Чакалася, што на такім сур'ёзным дызайнерскім і ювелірным узроўні будуць зробленыя і штодзённыя.

Новыя капейкі выглядаюць лаканічнымі і нецікавымі. Драбнейшыя манеты з невялікімі дэталямі амаль цалкам імітуюць савецкія.

А буйнейшыя — няўдалая копія літоўскіх літаў. Выглядае гэта бездапаможна.

А як можна было зрабіць інакш? Напрыклад, Новая Зеландыя бярэ на манеты рэдкія і адметныя прыклады ўласнай флоры і фаўны. Такія манеты расказваюць табе нешта пра краіну.

Што тычыцца купюр... Нейкае незразумелае гіпатэтычнае гарадзішча, якое нічога не кажа. Гэта суцэльная недарэчнасць!

У цэлым не надта фантазіравалі, выкарысталі ўсе тыя самыя сюжэты, што маем цяпер, толькі зрабілі іх у горшым выкананні. На сённяшніх грошах, асабліва буйнога наміналу, выявы чытаюцца ясна і цалкам. На прапанаваных жа выявы нарэзаныя як калаж. З мностам лішніх дэталяў.

Нам прапануецца імітацыя еўра ў значна горшым выкананні. Можна было б паказаць розныя стылі, розныя эпохі. Няўжо ў Магілёўскай вобласці няма нічога больш вартага за музей Масленікава? Тая ж Свята-Мікалаеўская царква, адноўленая Ратуша. Хто гэта адбіраў, якія крытэры?

А Нацыянальная бібліятэка? У Мінску ёсць і больш сур'ёзныя ансамблі. Візітоўкай Мінска для многіх па сёння застаюцца прывакзальныя вежы, ці плошча Перамогі, ці панарама Верхняга горада, ці выява абраза Маці Божай Мінскай, якая ёсць гербам Мінска.

Не бачу кроку наперад. Спроба скрыжаваць быка і індыка, зымітаваць еўра ў калажных выявах не ўдалася».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

## Рубель, грош, талер, шэляг, пенязі

Піша **Лявон Маліноўскі.**



Добра, што будуць манеты. Бо ад паперак кашалёк не зашпільваецца. Праўда, трэба новыя кашалькі ўвесці на рынак. З аддзелам для манет. Або каліты — асобна на манеты.

Назву «рубель» яшчэ нейк можна сцярпець, бо рублі — дарма што не было такіх асобна наміналаў ніколі, але слова такое было ў нашай традыцыі. На сто грошай казалі даўней «рубель грошай». А вось капейкі — гэтага як свет стаіць у нас не было. Капейка — гэта маскоўскі грош.

Беларускія грошы ў перыяд росквіту беларускай дзяржаўнасці і культуры называліся «грошы», ад лацінскай назвы *denarius grossus* — «тоўсты дэнар».

Грошы разменьваліся на пенязі (слова аднакарэннае з англійскім *пені*, *пенс*; германскім *пфенінг*, *фенік*).

Грошы лічыліся копамі — па 60. 1 капа = 60 грошай.

Так і казалі: «капа грошай», «дзве капе грошай». Таму можна лічыць, што «капа грошай» — наша нацыянальная грашовая адзінка.

Іншыя «наміналы» — тузін грошай (12). 5 тузіноў грошай, адпаведна, раўняюцца адной капе грошай.

Чаму тузіны і копы? Проста такая была канвенцыя. Фунт стэрлінгаў гэдак жа сама, як і капа грошай, разменьваўся даўней паводле дванаццаткавай сістэмы рахавання. Кажуць, што гэтая даўняя сістэма вельмі зручная, бо тузін (12) можна падзяліць аж на 2, 3, 4, 6.

Раўналежна хадзілі дробныя манеты — шэлягі (аднакарэннае да «шылінг»). Гэтае слова перахавала беларуская фразеалогія — «шэлягу не варты».

Дарагою манетай, якая была вартая некалькі коп грошай, быў талер біты.

Талер таксама захаваўся ў нашай фразеалогіі.

Але хай сабе будуць тыя капейкі да пары. Усё роўна гэтая эканоміка вельмі хісткая, нестабільная і доўга не прастоіць. Грашовыя рэформы круці не круці трэ' будзе праводзіць кожныя 5—10 год, каб нулямі не захлынуцца. Дык яно яшчэ ўсё тысячу разоў памяняецца.

Перш павінен быць дабрабыт, а эстэтыка ды нацыянальны каларыт прыйдуць за ім — следам за дзедам, як той казаў. Бо харавство, аўтэнтычныя назвы не могуць адрадзіцца ў галечы, нястачы, невуцтве, абыякавасці. Хай яно лясне разам са сваімі капейкамі.

Лявон Маліноўскі — лінгвіст, родам з Баранавіч, каранямі з Коўбавіч (Баранавіцкі раён).

# Як нашыя ўсходнія саюзнікі «дынамяць» беларускае войска

Два тыдні таму Аляксандр Лукашэнка паклаў канец размовам пра размяшчэнне расійскай авіябазы ў Беларусі, заявіўшы, што гэты крок нашкодзіць і Беларусі, і Расіі.

Але ці доўга Беларусь зможа супраціўляцца планам Расіі размясціць тут свае паветраныя сілы?

Мяркуйце самі: Беларусь не закупала новыя баявыя самалёты ажно з часоў развалу Савецкага Саюзу. Апошнія абнаўленні айчыннага авіяпарку — гэта чатыры вучэбна-баявыя самалёты Як-130, якія кампанія «Іркут» сёлета паставіла нашаму Міністэрству абароны. Падпісаны кантракт яшчэ на чатыры такія самалёты.

Што такое Як-130? Вайскоўцы называюць яго «лятучым камп’ютарам», што праўда, бо самалёт бадай што найлепшы ў свеце па электроніцы. Але ягоная асноўная задача — гэта падрыхтоўка пілотаў да палётаў на розных тыпах самалётаў: Як-130 можа імітаваць палёт нават амерыканскіх F-16 і F-22 Raptor.



Што ж датычыць ягоных баявых здольнасцяў, то тут самалёт саступае нават той тэхніцы, якой сёння валодаюць беларускія ВПС: МіГ-29, Су-25, Су-27.

Іншымі словамі, разглядаць яго як паўнавартасную замену цяжкім знішчальнікам нельга.

І Беларусь, безумоўна, хацела б атрымаць больш баяздольную тэхніку, але нашыя баявыя «саюзнікі» нам яе проста не даюць!

Расія адмаўляецца пастаўляць Беларусі цяжкія знішчальнікі пакалення 4+ Су-30, хоць пра гэта неаднаразова вяліся перамовы.

Асабліва паказальны выпадак 2013 года, калі, паводле папярэдняй дамовы, Індыя вяртала Расіі 18 Су-30К, у абмен на Су-30МКІ.

Каб не плаціць пошліну, самалёты не ўвозілі ў Расію, а паветрам даставілі на 558-ы рамонтны авіяцыйны завод у Баранавічах, дзе самалёты меліся прайсці мадэрнізацыю. Далей расіяне хацелі іх прадаць па даволі прывабнай цане — каля 300 мільёнаў даляраў за 18 самалётаў! (Новы Су-30 у залежнасці ад мадэлі каштуе ад 50 да 90 мільёнаў $ за адзінку.)

Найбольш імаверным купцом тады здавалася Беларусь, бо тут самалёты праходзілі мадэрнізацыю.

Але нам не далі тыя знішчальнікі, прадаўшы іх у... Анголу! Перыферыйную афрыканскую краіну, якой Крэмль яшчэ і даў крэдыт на закуп самалётаў. Беларусі ж не дасталося нічога.

Такім чынам, наш вайсковы «саюзнік» метадычна сабатуе дзейнасць ВПС Беларусі, заганяючы нас у прамую залежнасць ад расійскай авіяцыі, бо ўласная з кожным годам старэе і не можа адпавядаць выклікам часу.

Напрыклад, 558-ы рамонтны завод у Баранавічах можа мадэрнізаваць самалёты, чым цяпер і займаецца. Але гэта датычыць толькі электронікі — зношаныя рухавікі Су і МіГ мы заменіць не можам, бо ў Беларусі іх не робяць.

Наступствы старэння авіяпарку ўжо бачныя — за мінулы год падчас трэніровачных вылетаў у Беларусі разбіліся два самалёты: штурмавік Су-25 з лідскай авіябазы і знішчальнік Міг-29 з баранавіцкай.

Відавочна, што Як-130 не змогуць напоўніцу замяніць страчаныя самалёты і ўзмацніць айчынны авіяпарк.

Таму сам Лукашэнка перыядычна падкрэслівае патрэбу ў новай тэхніцы. Пасля сустрэчы з Шайгу ў 2013 годзе Лукашэнка сказаў, што яму, як галоўнакамандуючаму, «сёння не хапае двух дзясяткаў сучасных самалётаў». І што нам прапанавалі рускія? Размясціць тут свае войскі, а не дапамагчы тэхнікай.

Ваенны эксперт Аляксандр Алесін увогуле мяркуе, што Расія чакае, пакуль уся нашая авіятэхніка выйдзе з ладу, каб у Беларусі не было ніякіх варыянтаў, акрамя як пагадзіцца на размяшчэнне сучасных расійскіх самалётаў на сваёй тэрыторыі.

### Наш адказ

Адзінае выйсце ў гэтай сітуацыі для Беларусі — гэта распрацоўка ўласнай зброі стрымлівання, і такая зброя ўжо ёсць. Гэта «Паланэз» — спалучэнне сістэмы рэактыўнага агню і аператыўна-тактычнага комплексу, зона паражэння якога складае 200 кіламетраў.

«Паланэзы» распрацаваныя разам з кітайцамі, у якіх ёсць добрыя напрацоўкі ў галіне ракетабудавання.

Таму нават стварэнне «Паланэзаў» Лукашэнку падаецца недастатковым — на пачатку лістапада, падчас наведвання завода дакладнай электрамеханікі ў Дзяржынскім раёне, Лукашэнка даручыў стварыць і паставіць у войска больш магутныя ракетныя комплексы.

Пра самалёты ж на час вырашана забыцца, пра што сведчаць словы галоўнакамандуючага ў духу «Што такое самалёт? Яго бачна з усіх бакоў у паветры. Пуск адной ракеты — і няма самалёта».

І насамрэч, сёння ў Беларусі ёсць чатыры брыгады С-300, якія агулам могуць зрабіць каля 700 пускаў. Важным крокам ва ўмацаванні абараназдольнасці быў бы выпуск айчынных аналагаў С-300. Але гэта вельмі складаная задача.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Кацярына Ціханава — сапраўды дачка Пуціна, а яе муж аказаўся ўласнікам нафтагазавага «СІБУРа»

Намеснік старшыні праўлення «Газпрамбанка» Андрэй Акімаў пацвердзіў інфармацыю пра тое, што кіраўнік фонду «Інапрактыка» Кацярына Ціханава — дачка прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.

Афіцыйна Ціханава ў свае 29 гадоў займае пасаду намесніка праэктара МДУ. Сярод яе дарадцаў — пяць членаў унутранага кола Пуціна, у тым ліку два былыя афіцэры КДБ, якія служылі разам з Пуціным у ГДР у 1980-х гадах.

Цікава, што замужам яна за акцыянерам багатай расійскай нафтагазавай «СІБУР Холдынг» Кірылам Шамалавым. Шамалаўмалодшы таксама з 2004 года стаў саўладальнікам банка «Расія», які патрапіў у 2014 годзе пад санкцыі, паколькі яго асноўным акцыянерам з’яўляецца сябар Пуціна Юрый Кавальчук.

Ціханава і Шамалаў маюць вілу ў Біярыцы на паўднёва-заходнім узбярэжжы Францыі, якая каштуе каля 3,7 млн даляраў, і гэтую нерухомасць Шамалаў таксама купіў у Цімчанкі, пішa ў вялікім артыкуле агенцтва «Ройтэрз».

Паводле ацэнак фінансавых аналітыкаў, усяго маладая пара валодае ўласнасцю на суму каля двух мільярдаў даляраў.

**Сяргей Гезгала**



# Плітачнік і чэмпіёнка

## Сябар хлопца, падазраванага ў забойстве трэнера: «Канфлікт пачаўся з-за рамонту»

28 кастрычніка ў Мінску без знаку знікла 31-гадовая Юлія Балыкіна, лёгкаатлетка, спрынтарка, удзельніца Алімпіяды. Канчаткова лёс спартоўкі яшчэ не высветлены, але Следчы камітэт распачаў крымінальную справу па артыкуле «Забойства».

Ходзяць чуткі, што яе сябар прызнаўся, што яе забіў, але, кажа, не памятае, дзе закапаў.

### Беларуска родам з Манголіі

Юлія Балыкіна нарадзілася ў мангольскім горадзе Булган. А расла ў Запарожжы.

Спортам пачала займацца вельмі позна — у 18. У 23 гады спартсменка пераехала ў Беларусь, стала чэмпіёнкай нашай краіны і першым нумарам зборнай на дыстанцыях 100 і 200 метраў. У свой час трэнеры спадзяваліся, што яна зможа замяніць алімпійскую чэмпіёнку Юлію Несцярэнка.

Але ў яе выявілі допінг, і пайшла яна рабіць трэнерам у беларускае фізкультурна-спартыўнае таварыства «Дынама». Тэрмін дыскваліфікацыі скончыўся, і яна акурат вырашала, ці варта вяртацца ў вялікі спорт.

«Яна разглядала такую магчымасць, але там складаная працэдура выхаду з дыскваліфікацыі і гэта дорага каштуе. Усё кладзецца на плечы дыскваліфікаванага спартсмена. І яна прыняла рашэнне, што не будзе вяртацца, а застанецца дзіцячым трэнерам», — расказвае трэнер па спрынце нацыянальнай зборнай Яўгенія Валадзько.

Але яе планам не наканавана было ажыццявіцца.

### Не знікненне, а забойства

З заявай аб знікненні жанчыны да праваахоўнікаў звярнуўся яе знаёмы, калега па дзіцячай секцыі. Ён паведаміў, што ў сераду, 28 кастрычніка, Балыкіна на сваёй машыне паехала дадому, у Завадскі раён, пасля чаго перастала выходзіць на сувязь. Юлія павінна была забраць зімовую гуму з недабудаванага катэджа сваіх знаёмых, але знікла і не адзванілася. Тэлефон спартсменкі быў выключаны.

Неўзабаве быў затрыманы 28-гадовы грамадзянін Расіі Дзмітры — былы хлопец Юліі Балыкінай.

Ён нарадзіўся ва Украіне, потым сям'я пераехала ў Расію. Бацькі трагічна загінулі, і Дзмітры пераехаў да дзядзькі і цёткі ў Рагачоў, дзе вырас і вывучыўся на плітачніка-тынкоўшчыка ў каледжы. Пэўны час жыў і працаваў у Маскве, дзе ў яго нават нарадзілася дзіця. Але сям'я распалася.

Пасля Дзмітры пераехаў у Мінск і пазнаёміўся з прыгажуняй-лёгкаатлеткай Юліяй Балыкінай. Бацькі дзяўчыны дапамаглі ёй пабудаваць кватэру ў Мінску. А пахіснуліся адносіны пасля таго, як пара пачала рабіць там рамонт.

«Разваліся яны недзе два месяцы таму. Да гэтага жылі нармальна, а потым пачаўся рамонт, сваркі. Вось, хутчэй за ўсё, не перажылі рамонту. Але каб справа дайшла да забойства — я не ведаю. Здавалася, што ён адэкватны чалавек», — распавёў «Еўрарадыё» добры знаёмы Дзмітрыя па рагачоўскім каледжы. Хлопцы падтрымлівалі адносіны і ў Мінску.




Юлія Балыкіна і Дзмітры.

Дзмітры цяжка перажыў разрыў адносін з Юліяй. Ён пастаянна, нават ноччу, выкладваў у сацсеткі цытаты, прысвечаныя адносінам і любові. А ў сярэдзіне верасня выклаў фота з Юліяй і апублікаваў блытаны допіс, прысвечаны ёй.

### Цела так і не знайшлі

Пакуль спартсменку не знайшлі, складана дэтальна высветліць, што здарылася. Але супрацоўнікі Следчага камітэта не проста так распачалі справу па артыкуле «Забойства». У кватэры Балыкінай і яе аўтамабілі *Kia Rio* былі знойдзеныя рэчывы бурага колеру і іншыя сляды, якія ўказвалі на забойства. Сам Дзмітрый В. дае паказанні і бярэ ўдзел у следчых дзеяннях. Але ці не спрабуе ён заблытаць праваахоўнікаў — пытанне. Да таго ж, паводле непацверджанай інфармацыі, хлопец прымаў псіхатропы.

Паводле чутак, на следстве Дзмітры кажа, што забіў Юлію, запіхнуў труп у машыну і вывез у лес. Дзе менавіта закапаў цела, ён не памятае. На падставе гэтай інфармацыі ўвесь мінулы тыдзень добраахвотнікі з ініцыятывы «Анёл» прачэсвалі лясы вакол Мінска. Пакуль марна.

Эксперты-крыміналісты высвятляюць, што магло штурхнуць падазраванага на злачынства: стан афекту на фоне сваркі, алкаголь ці псіхатропы.

**Улад Швядовіч**

# Трагікамедыя на трасе

## П'яны кіроўца збіў п'янага мужчыну, які вёз п'яную сабутэльніцу ў скрадзенай дзіцячай калясцы

На ўскраіне Верхнядзвінска — гэта горад на захадзе Віцебшчыны, колішняя Дрыса — пара гуляла цэлы вечар. 50-гадовы пайшоў у краму па дабаўку, але яго затрымала міліцыя. Калі працверазеў, адпусцілі. Сяброўка дачакала яго, і пайшлі яны да яго хаты ў вёску, што за два кіламетры ад райцэнтра.

Але ісці жанчыне пасля выпітага было цяжка. Тады яе кавалер прыхапіў з пад'езда першы лепшы дзіцячы вазок — беленькі — і папёр у ім 42-гадовую сяброўку дадому.

Ехалі яны, ехалі. І супала ж так, што той жа дарогай вяртаўся з бара дадому 30-гадовы хлопец — п'яны і сам, і пасажыры ягоныя. «Жыгулі» знеслі з трасы дзіцячы вазок. Перапалоханы кіроўца спыніўся на секунду і, разгледзеўшы, што нарабіў, рвануў наўцёкі.

Выкрадальніку дзіцячай каляскі (які сам раней не раз быў судзімы за крадзяжы) пераламала ногі. Яго пасажырцы паламала скабы.

Кіроўцу «жыгулёў» затрымалі і асудзілі да 5 гадоў пазбаўлення волі за кіраванне транспартам у п'яным выглядзе і пакіданне ў небяспецы збітых на дарозе людзей.

Мужчына за каляску прасядзіць у турме 1,5 года.

**УШ**

# У Мазыры мужчына скраў банкамат

У Мазыры мужчына вырашыў разжыцца грашыма незвычайным чынам.

Ноччу 7 лістапада ў дзяжурную частку Мазырскага РАУС паступіла паведамленне пра тое, што хтосьці пракраўся ў адміністрацыйны будынак гарадской бальніцы і выкраў адтуль банкамат.

Неўзабаве ў лясным масіве знайшлі аўтамабіль *Volkswagen Caravelle*. Кіроўца спрабаваў схавацца, аднак яго затрымалі. Ім аказаўся раней не раз судзімы жыхар Мазыра, 1968 года нараджэння. Як аказалася, гэтую «Каравэлу» яшчэ ў сакавіку скралі са стаянкі ў Лельчыцах (гарадок на Палессі).

У машыне былі выяўленыя прылады злачынства і банкамат, у якім было 380 мільёнаў рублёў.

Падазраванага пасадзілі ў ізалятар. Яму пагражае да 12 гадоў зняволення.

**УШ**

### Прамазала па сужыцелю, прабіла чэрап хлопчыку

Закрытую чэрапна-мазгавую траўму з пераломам костак чэрапа атрымаў 5-месячны хлопчык у Бабруйску.

Пра тое, што адбылося ў той дзень, міліцыі распавёў бацька дзіцяці. Пара ўжывала алкаголь у доме бацькоў жанчыны. Каля 15.00 мужчына выйшаў на кухню з дзіцём на руках. Паміж бацькамі спалахнуў канфлікт. Жанчына схапіла швабру і ўдарыла сужыцеля па спіне. Мужчына адхінуўся, а страшнай сілы ўдар прыйшоўся па галаве сына.

«Добрай маме» пагражае да 2 гадоў абмежавання волі за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці.

**УШ**

## Сцісла

### Унучка абрабавала

18-гадовая дзяўчына скрала ўпрыгожванні і каля 300 мільёнаў рублёў у сваёй бабулі. Разам з сяброўкай дзяўчына хадзіла па рэстаранах, набывала адзенне. Яе затрымалі, распачата крымінальная справа.

### Загінула ў ДТЗ

На трасе Р-58 Мінск—Калачы—Мядзел збілі жанчыну. Кіроўца распавёў, што была дрэнная бачнасць з-за туману на дарозе, да таго ж на жанчыне не было флікераў.

### Цыгарэты на мільярд

У Брэсцкай вобласці памежнікі знайшлі ў лесавозах, якія ехалі ў Польшчу, кантрабандныя цыгарэты. Груз канфіскаваны. Яго ацэньваюць амаль на мільярд рублёў.

### Смерць на «Беларуськаліі»

2 лістапада на адным з участкаў 3-га рудаўпраўлення ААТ «Беларуськалій» адбылося ўзмоцненае выдзяленне метану. Неўзабаве ў шахце знайшлі цела загінулага рабочага. Прычына інцыдэнту высвятляецца.

### ДТЗ у Светлагорску

У Светлагорску жанчына за рулём «Форда» не саступіла дарогі УАЗу. У выніку яе аўто пратараніла і перакуліла УАЗ: яго кіроўца загінуў.

### Паспрабаваў спаліць дзяўчыну

У аграгарадку Дзівін мужчына абліў бензінам сваю 20-гадовую дзяўчыну і падпаліў. У цяжкім стане яе даставілі ў бальніцу. Па словах мужчыны, яму не спадабалася, што падчас застолля дзяўчына вырашыла пайсці спаць.

**УШ**

# У Расіі прычынай катастрофы A321 назвалі «здраду егіпецкіх спецслужбаў»

Пра гэта расійскай газеце «Коммерсант» распавялі крыніцы ў дзяржаўных структурах.



«Што б ні здарылася, гэта іх вялікі правал», — заявіў суразмоўца газеты. У прыватнасці, паводле звестак крыніцы, следчыя правяраюць інфармацыю пра тое, што да борта *Airbus A321* да ўзлёту з невядомых прычын былі дапушчаныя пабочныя асобы.

Раней міжнародныя інфармацыйныя агенцтвы са спасылкай на супрацоўнікаў службы бяспекі аэрапорта Шарм-эль-Шэйх паведамлялі, што парушэнні рэжыму бяспекі там мелі сістэматычны характар. У прыватнасці, суразмоўцы адзначалі, што часта не працуюць сканеры ў зонах, дзе аглядаецца ўжо зарэгістраваны багаж. Іх выключалі для эканоміі электраэнергіі.

Тэрарыстычная групоўка «Ісламская дзяржава» назвала падрыў самалёта помстай за расійскія бамбёжкі Сірыі.

У цэлым расійскія СМІ рэзка зменшылі колькасць публікацый пра катастрофу пасля таго, як стала высвятляцца, што гэта, найхутчэй, быў тэракт. Імаверна, Масква баіцца, што інфармацыя пра тэракт можа падарваць у грамадстве падтрымку ваеннай аперацыі Расіі ў Сірыі.

**Сяргей Гезгала**

Паводле ацэнак брытанскіх і амерыканскіх спецслужб, прычынай катастрофы расійскага самалёта ў Егіпце з імавернасцю 95% стаў тэракт. Расследаванне працягваецца. Чорныя скрыні ў апошнюю долю секунды зафіксавалі моцны гук, што можа азначаць выбух.

# У Ізраілі ў выніку тэракта загінуў пляменнік Якубовіча



Ізраільскія СМІ паведамляюць, што на вайсковых могілках горада Кір'ят-Шмона адбылося пахаванне 19-гадовага старшага сяржанта МАГАВ (пагранічнай паліцыі) Біньяміна Якубовіча. На пахаванні прысутнічаў міністр унутранай бяспекі Гілад Эрдан.

Трагічнае здарэнне адбылося 4 лістапада на скрыжаванні Хальхуль, недалёка ад Хеўрона. Відэакамеры зафіксавалі, як машына на вялікай хуткасці ўрэзалася ў групу байцоў пагранічнай паліцыі.

За рулём знаходзіўся 23-гадовы тэрарыст-самагубца Самір Сакафі. Яго застрэлілі проста на месцы. У выніку моцна пацярпеў толькі Якубовіч, яго даставілі ў шпіталь «Хадаса Эйн-Карэм», але лекары так і не змаглі ўратаваць жыццё хлопцу.

Органы афіцэра МАГАВ Якубовіча па просьбе сям'і былі ахвяраваныя тым, хто мае ў іх патрэбу.

Міністр абароны Ізраіля Мошэ Яалон напісаў у сваім фэйсбуку: «Падчас візіту ў «Хадаса Эйн-Карэм» я наведаў афіцэра Біньяміна Якубовіча, за лічаныя гадзіны да таго, як ён памёр ад атрыманых у выніку тэрарыстычнай атакі раненняў. Побач з яго ложкам я сустрэў бацькоў — Станіслава і Сімону. Я пагаварыў з імі, і на мяне вялікае ўражанне зрабіла іх душэўная сіла. Сёння ноччу, пасля яго смерці, яны абвясцілі аб тым, што ахвяруюць органы Біньяміна. Гэта экстраардынарны гуманітарны жэст, і годнасць бацькоў павінна быць для ўсіх нас прыкладам і ўзорам паводзін».

У аўторак газета Адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия» паведаміла, што 19-гадовы Біньямін Якубовіч з'яўляецца ўнучатым пляменнікам галоўнага рэдактара выдання Паўла Якубовіча.

**Зміцер Панкавец**

# Лёгкаатлетаў з Расіі могуць адхіліць ад Алімпіяды

Выкарыстанне допінгу курыравала ФСБ.

Камісія Сусветнага антыдопінгавага агенцтва (WADA) рэкамендавала Міжнароднай асацыяцыі лёгкаатлетычных федэрацый (IAAF) дыскваліфікаваць Усерасійскую федэрацыю лёгкай атлетыкі (УФЛА) за сістэматычныя парушэнні, звязаныя з ужываннем допінгу спартоўцамі, паведамляе Бі-Бі-Сі.

У тым выпадку, калі дзейнасць нацыянальнай лёгкаатлетычнай федэрацыі будзе прызнаная несапраўднай, спартсмены з Расіі не змогуць узяць удзел у летніх Алімпійскіх гульнях 2016 года, якія пройдуць у Рыа-дэ-Жанейра.

Як гаворыцца ў незалежнай справаздачы агенцтва, маскоўскую антыдопінгавую лабараторыю неабходна пазбавіць ліцэнзіі, паколькі яна не можа «працаваць незалежна». Пры гэтым члены камісіі абвінавачваюць ФСБ Расіі ў «прамым запалохванні і ўмяшанні» ў пабудову сістэмы прыёму допінгу.

Камісія таксама сцвярджае, што маніпуляцыі з допінгпробамі расійскіх лёгкаатлетаў праводзіліся па загадзе міністра спорту Расіі Віталя Мутко. Сам Мутко на запыт камісіі WADA абверг усе абвінавачванні на свой адрас, уключаючы ціск прадстаўнікоў ФСБ на допінгафіцэраў.

Даклад WADA заснаваны на выніках уласнага расследавання, пачатага пасля выхаду ў снежні 2014 на нямецкім тэлебачанні фільма пра масавае ўжыванне допінгу расійскімі лёгкаатлетамі. Аўтары фільма абвінавацілі таксама Міжнародную асацыяцыю лёгкаатлетычных федэрацый ва ўкрывальніцтве злоўжыванняў з боку Расіі.

**ЛМ**



WADA рэкамендавала пажыццёва дыскваліфікаваць чэмпіёнку свету ў бегу на 800 метраў Марыю Савінаву.

Паралелі

# Беларусы, бахціяры ды іх нябожчыкі



У Беларусі часта наракаюць на «гістарычнае бяспамяцтва». Вось, маўляў, адзін з каранёў беларускае бяды — не памятаем сваіх «каранёў». І радаводу «да пятага калена».

Думаў так і я. Пакуль не трапілася мне сутыкнуцца з народамі мусульманскага Усходу: бахціярамі ў Іране, белуджамі ірана-пакістана-афганскага ўзмежжа, узбекамі Оша, хазарэйцамі Афганістана.

Калі маеш справу з людзьмі большменш працяглы час, дык раней ці пазней сутыкаешся з іх уяўленнямі пра смерць і памяццю пра мінулыя пакаленні.

Дык вось, возьмем тых самых бахціяраў — ваяўнічае лурскае племя, што жыве непадалёк ад іранскага Ісфахана. Ніякіх дзён, адмыслова прызначаных для наведвання могілак, у іх няма. Могілкі наведваюць адразу пасля смерці — 40 дзён, напрыклад, а пасля вельмі рэдка.

Аргументы пра качавыя і аседлыя народы не прымаю, бо ошскія ўзбекі — фактычна былыя сарты — якраз месцічы. Дый бахціяры ў большасці сваёй даўно аселі.

Іншы момант. Нават у сям'і, прыналежнай да адгалінавання бахціярскіх ханаў, амаль ніхто не ведае магілаў прадзедаў і далёка не кожны ведае дарогу да магілаў дзядоў. Дадам, што гэтыя самыя людзі з гонарам распавядаюць пра сваю прыналежнасць да тамтэйшай знаці, дэманструюць старасвецкія ўборы, паказваюць дамы і землі, дзе робіць іх колішнія парабкі. Паказваюць з крыўдай, бо таксама рэвалюцыя абскубла: спачатку шахская «Белая рэвалюцыя», пасля Ісламская. Але, маўляў, яны ўсё памятаюць.

Што тут сказаць: што ў беларусаў два дні на год адведзеныя нябожчыкам? Што мая так бы мовіць *extended family*, як у нас кажуць, «сваім кагалам», заўжды збіралася на могілкі ў адпаведныя дні: увесну на Радаўніцу, пры канцы лета — на Спажу, хоць Спажа не мае статусу афіцыйнага свята ў краіне. [СпажА — Спленне, Прачыстая, 28 жніўня — дыялектная назва. — Рэд.] Што мы і цяпер наведваем магілы памерлых аж у 1944-м? І ведаем, дзе ляжаць нашы нябожчыкі? І нават за сотні кіламетраў сваякі ездзілі (хай сабе і раз на дваццаць гадоў), на Магілёўшчыну, «на магілу».

Або іншае скажу. Вось прынята таксама бэсціць нашых людзей за бязбожжа і адыход ад веры. Але ўсе мае сваякі хрысцілі дзяцей у савецкі час, хоць некаторыя былі камуністамі, нехта рабіў у міліцыі, і фактычна ўсе трывала падтрымлівалі савецкую ўладу.

Памятаюць мае сваякі, і дзе да 39-га былі іх землі, і хто, дзе і што рабіў у вайну. Памятаюць і тое, як дзед Лёкса двойчы ваяваў з немцамі за Польшчу і, знявечаны, ледзьве ногі цягаў па вайне, а бабчын брат Фрол страціў пальцы пад Сталінградам. Памятаюць і тое, як дзед Рывон трапіў у НКВД, але быў неўзабаве вызвалены. І памяталі заўжды. І разумелі, што да чаго. У адрозненне ад мяне, чытача адраджэнскай літаратуры.

І так не толькі ў маёй сям'і. У вёсках маіх дзядоў — на Маладзечаншчыне і Магілёўшчыне — ва ўсіх так.

Дык што гэта, калі не «памятаць свае карані»?

Іншая справа, ці так яно будзе і надалей. Ці захаваюць такое стаўленне маладзейшыя за мяне пакаленні?

**Сяргей Богдан, Берлін—Варшава—Маладзечна**

# Міністрам абароны Канады стаў правам верны сікх

**У новы ўрад Канады, сфарміраваны Ліберальнай партыяй, увайшло 15 мужчын і 15 жанчын.**

А міністрам абароны прызначаны прававерны сікх. Падпалкоўнік Харджыт Саджджан — баявы афіцэр, які тройчы служыў у Афганістане і адзін раз у Босніі.

Лібералы робяць стаўку на галасы жанчын і нацыянальных меншасцей. Сярод новых міністраў ёсць, напрыклад, і адна ўкраінка.

Саджджан насіў традыцыйны сікхскі цюрбан нават падчас службы. Упершыню пост міністра абароны аднoй з краін «Вялікай сямёркі» займае выхадзец з нацыянальных меншасцей.

У падпалкоўніка Саджджана двое дзяцей, ён іх таксама гадуе ў сікхскіх традыцыях. Акрамя таго, іх сям'я ахвяруе грошы на ўтрыманне чатырох сірот.

Сікхі — рэлігійная група ў Індыі, якая складае большасць насельнікаў у штаце Пенджаб.

**Сяргей Гезгала**






## «Злыя маскалі» супраць БЧБ: рускі нацыяналіст вырабіў сабе антыбеларускую майку

**Расійскі музыка, вядомы пад мянушкай Іван Раз-на-раз, выклаў у інтэрнэт здымак, на якім ён пазуе ў саколцы з надпісам «Злыя маскалі».**

На выяве расійскі стралец забівае крылатага гусара Вялікага Княства, побач з якім ляжыць кінуты штандар з беларускім сцягам і гербам «Пагоня». Усё гэта суправаджаецца подпісам «Масква пабіла» па-англійску.

Той самы аўтар раней фатаграфаваўся са сцягам расійскіх сепаратыстаў усходу Украіны.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Фані Ардан падчас прыезду на «Лістапад» папрасіла пра сустрэчу з Алексіевіч



Фані Ардан — ганаровая госця сёлетняга кінафестывалю «Лістапад» у Мінску. Знаную французскую акцёрку вельмі крануў цёплы прыём у Мінску. Калі яна выйшла на сцэну, уся зала апладзіравала ёй стоячы.

Акцёрка прывезла ў Мінск сваю другую рэжысёрскую работу «Дакучлівыя рытмы».

Як стала вядома «Нашай Ніве», у Мінску Ардан папрасіла французскае пасольства арганізаваць ёй сустрэчу са Святланай Алексіевіч. Яна наведала пісьменніцу ў яе дома і папрасіла, каб Алексіевіч уключыла гісторыю кахання Ардан у адну са сваіх новых кніг.

Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры за 2015 год.

**Мікола Бугай**

## Задорнаў пра Алексіевіч: Вось як Захад заточаны супраць Расіі! Да затлумлення мазгоў

Вядомы расійскі гумарыст Міхаіл Задорнаў у сваім блогу выказаўся адносна Нобелеўскай прэміі па літаратуры для беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч. Задорнаў рэзка раскрытыкаваў гэтае рашэнне Нобелеўскага камітэта.

«Нобелеўскі камітэт яшчэ раз даказаў гэтай прэміяй, што мастацкая каштоўнасць ім не важная. Ім галоўнае, каб было нешта супраць Расіі сказана. Сярод пісьменнікаў, якія пішуць на рускай, ёсць значна больш таленавітыя і цікавыя — Прылепін, Пялевін... Я ў першую чаргу называю тых, каго сам люблю чытаць», — напісаў комік.

Ён акцэнтаваў, што і папярэднія прэміі рускамоўным пісьменнікам даваліся не за мастацкія вартасці, а за палітыку. «Бо Салжаніцыну таксама Нобелеўская прэмія была дадзена не за мастацкасць, а за антысавецкі змест. Многія раманы Салжаніцына пачыналіся з мастацкіх частак, а развіваліся як публіцыстыка. Сёння мала хто можа пахваліцца тым, што ён дачытаў да канца нават "У крузе першым". А на Захадзе ведаюць, што ён атрымаў Нобелеўскую прэмію, але ніхто і першых частак не прачытаў. Такая ж гісторыя была з Пастарнакам».

«Вось як Захад заточаны супраць Расіі! Да затлумлення мазгоў», — робіць выснову Задорнаў.

Міхаіл Задорнаў — комік, вядомы сваімі маналогамі пра «тупых амерыканцаў».

**ЗП**




## Алекс Фергюсан: Вікторыя Азаранка — прыклад самаўпэўненасці

Былы галоўны трэнер «Манчэстар Юнайтэд» Алекс Фергюсан распавёў аб гісторыі, калі нельга загадзя святкаваць перамогу на прыкладзе беларускай тэнісісткі Вікторыі Азаранка.

«Я атрымаў першы значны ўрок на тэму самаўпэўненасці ў 1968 годзе, у мой першы сезон як гульца «Рэйнджэрс». Мы не прайгравалі да сярэдзіны апошняга матча з «Абердзінам», а ў ім ужо «злілі» 3:2 і прайгралі чэмпіянат [Шатландыі]. Пасля гульні тысячы заўзятараў проста звар'яцелі — разбівалі шыбы і ладзілі беспарадкі. Гэта быў хаос. Нам спатрэбіўся паліцэйскі эскорт, каб пакінуць стадыён цэлымі. Не так шмат патрабавалася, каб выйграць лігу. Ад нас патрабавалася выйграць толькі адзін матч —але мы і з гэтым не справіліся.

Іншы прыклад празмернай упэўненасці, што запомніўся мне, былі прадэманстраваны на тэнісным матчы. Я прысутнічаў на фінале адкрытага чэмпіянату ЗША сярод жанчын у 2012 годзе, калі Вікторыя Азаранка амаль абыграла Серэну Уільямс.

Азаранка вяла 5:3 у вырашальным сэце і трохі памахала рукой сваёй сям'і і сябрам на трыбунах. З гэтага моманту ўсё пайшло не так. Яна прайграла свой гейм на чэмпіёнства, і Уільямс узяла трафей. Я бачыў твар Азаранка пасля таго, як яна прайграла. Яна была спустошана. Гэта лішні раз даказвае: ніколі не думайце пра кубак да таго часу, пакуль вы яго не выйгралі», — расказаў Фергюсан.

**АГ**

Кіно

## Супершпіён і яго брат

007: Спектр
**Жанр:** баявік, трылер, прыгоды
**Рэжысёр:** Сэм Мендэс
**У ролях:** Дэніэл Крэйг, Крыстаф Вальц, Леа Сейду, Моніка Белучы, Наомі Харыс, Бэн Уішаў, Дэйв Бацiста, Эндру Скот, Роры Кінер
Вялікабрытанія, ЗША, 148 хв.
**Адзнака:** 7,5

У Мехіка Джэймс Бонд прадухіляе тэракт, а пасля ў Рыме сутыкаецца з Люсіяй Скіярай, прыгожай удавой забітага ім злачынцы. Употай з'явіўшыся на сакрэтную нараду, Бонд раскрывае таямніцу існавання арганізацыі «Спектр» і яе кіраўніка. Тым часам у Лондане новы кіраўнік цэнтра па пытаннях бяспекі ставіць пад сумнеў працу агента 007 і адмаўляе важнасць MI-6. Нягледзячы на гэта, Бонд выпраўляецца на пошукі Мадлен Суон, дачкі свайго даўняга ворага, якая можа дапамагчы яму знішчыць «Спектр».

Гэта дваццаць чацвёрты фільм з серыі пра брытанскага агента Джэймса Бонда, героя раманаў Яна Флемінга (1908—1964). Ролю Бонда ў чацвёрты раз выканаў Дэніэл Крэйг. Роля новай дзяўчыны і напарніцы дасталася французскай зорцы Леа Сейду («Жыццё Адэль», «Прыгажуня і пачвара»). У стужцы таксама з'яўляецца італьянка Моніка Белучы ў ролі ўдавы.

Ролю галоўнага злачынцы, кіраўніка арганізацыі «Спектр» Эрнста Блофельда, які марыць кіраваць светам шляхам аб'яднання выведак усіх магутных дзяржаў, выканаў аўстрыец Крыстаф Вальц. На яго рахунку ўсе знакавыя ўзнагароды свету кіно: «Оскар» і «Залаты Глобус» за «Бясслаўных выradkaў» (2009) і «Джанга вызвалены» (2012) Квенціна Таранціна, а таксама нядаўняя роля ў біяграфічнай драме пра Маргарэт Кін у «Вялікіх вачах» (2014) Бёртана.

Супершпіён Бонд, як заўжды, выходзіць жывым з любой складанай сітуацыі, паспяваючы ратаваць сваю дзяўчыну і ўвесь свет. Аднак з перазапускам бандыяны з Дэніэлам Крэйгам сюжэт дадаюць і асабістую лінію героя. Цяпер гэта тэма сям'і — бацькі і ніякага роднага брата, які стаў на кепскі шлях. «Гэта гісторыя пра спадчыну, пра тое, што застанецца пасля цябе, калі ты пражыў усё жыццё ў цяні, як Бонд», — адзначыў рэжысёр Сэм Мендэс.




Падзеі фільма адбываюцца ў Лондане, Мехіка, Рыме, а таксама ў Марока і Аўстрыі. Стужка насычаная захапляльнымі краявідамі і выглядае надзвычай стылёва. Яна спадабаецца аматарам фільмаў пра невынішчальных герояў.

**Настасся Уласава**

# Чакаем Алеся Юркойца

Вось ужо паўгода вядомы краязнаўца з Астравеччыны Алесь Юркойць знаходзіцца пад следствам у мінскім СІЗА. Ён мытнік. А чарговая справа мытнікаў, па якой затрымана больш за 20 чалавек, праходзіць пад покрывам абсалютнай сакрэтнасці. Сваякі не маюць звестак пра ход следства…

У Беларусі заўсёды хапала таленавітых людзей: пісьменнікаў, музыкаў, навукоўцаў. Каго бракавала, дык гэта асобаў, здольных усіх арганізаваць, аб'яднаць і скіраваць на карысць беларушчыны.

Мала тых, хто, не спадзеючыся ні на матэрыяльныя выгады, ні на славу, ні нават на словы ўдзячнасці, станавіліся ініцыятарамі-арганізатарамі-мецэнатамі ў адной асобе, такімі рухавікамі беларускасці.

Такім чалавекам быў, ёсць і, веру, будзе ўраджэнец Нальшчан Алесь Юркойць.

Нарадзіўся ў простай сям'і, скончыў БДУ. Нястомна займаўся самаадукацыяй. Не прапускаў ніводнай беларускай кнігі — гісторыя, этнаграфія, музыка, мова. Жывучы ў вёсцы Варняны, дзе і кнігарні не было, ён сабраў зайздросную бібліятэку, часам толькі дзеля яе папаўнення выпраўляючыся ў Мінск, Гродна, Вільню.




Як і кнігі, ён любіў і ўмеў знаходзіць цікавых людзей. І не важна, была гэта стагадовая бабця, сведка высадкі Філістовіча, беларускі ксёндз з суседняй парафіі са зборам рэдкіх кніжак ці пісьменнік-класік. Вакол Юркойца паступова склаўся вялікі беларускі клуб — адкрыты для ўсіх.

Пералік імпрэзаў, што зладзіў Алесь, заняў бы не адну старонку і зрабіў бы гонар сур'ёзнай грамадскай арганізацыі. Юркойць рабіў гэта на энтузіязме. Яго пазітыўнасць і напор рабілі немагчымае.

Ён удзельнічаў у аднаўленні пад'ёмнага мастка і рэстаўрацыі вежы сядзібнага комплексу Абрамовічаў, якія цяпер сталіся візітоўкай Астраўца.

Ён прывозіў на Астравеччыну дзясяткі літаратараў, спевакоў. Раённы гарадок бачыў людзей, выступы якіх зрабілі б гонар сталічным пляцоўкам.

На рахунку Алеся быў першы літаратурны астравецкі слэм, фотавыставы, краязнаўчыя чытанні.

На мастацкія пленэры збіраліся мастакі з Беларусі, Літвы, Польшчы. У Астравец з'ехаўся дзясятак скульптараў. Яны пакінулі свае працы ў падарунак гораду!

Сярод імёнаў, якія ён адкрыў, быў брат Казіміра Сваяка Альбін Стаповіч. У 2004 годзе ў яго роднай вёсцы Барані адбыліся чытанні, прысвечаныя гэтай асобе, і адкрытая мемарыяльная шыльда.

У 2002 годзе Алесь быў адным з арганізатараў міжнародных чытанняў, прысвечаных дыпламату, стваральніку першага руска-японскага слоўніка Іосіфу Гашкевічу.

Нават калі дачок у Алеся стала трое, ён працягваў нараджаць і праводзіць у жыццё ідэі. Вазіў бясплатныя экскурсіі па Астравеччыне. Арганізаваў моўныя курсы «Мова нанова». Ставіў помнікі!

А што цяпер? Чалавек больш за паўгода правёў за кратамі. Скупыя лісты, бездапаможнасць адвакатаў і цішыня ў эфіры. Не маем ніякай інфармацыі, каб меркаваць аб прычынах, стане і перспектывах ягонай справы.

Што б ні было, ведаючы Алеся Юркойця, я ўпэўнены, што ён не злодзей і не злачынца. На такіх, як ён, трымаецца Беларусь. Веру, што справядлівасць станецца і Юркойць зможа зноў працаваць.

**Усевалад Сцебурака, Мінск—Астравец**

## Беларусы татальна нявеtлыя, і з гэтым трэба нешта рабіць

Піша **Сяргей Харэўскі**.

Нядаўна ў Вільні, шпацыруючы са старым сябрам, адчуў няёмкасць. Купляў сабе ў шапіку талончык, прамямліў прадавачцы: «Duokite bilietą...» Тым часам мой сябар Андрэй Антонаў шапнуў мне, нагадаў: «...Man prašau...» Прысароміў!

І праўда, раней гэткі просты сказ быў для мяне натуральным. Раней жа казаў абавязкова! У любой краіне па-іншаму сказы-просьбы й не гучаць, бо мы паўсюль кажам *s'il vous plaît, proszę, please*...

За тузін гадоў, як я вярнуўся жыць у Мінск, я не толькі адвык ад элементарнае ветлівасці з боку касіраў, прадаўцоў, афіцыянтаў, міліцыянтаў, кантралёраў, што й падзабыў такую элементарную падставу людскіх адносін.

Літаральна ўчора я і мой сусед, робячы звычайнае кола па сваім раёне, у пабытовым клопаце, зрабілі эксперымент. Заходзячы ў крамы, кавярні, на пошту, вітаючыся, развітваючыся, просячы і дзякуючы, такі і не дачакаліся ні ад кога (!!!) нават «здрасьте/пажалуста»...

Адкуль раптам запанавала такая ўсеагульная нявеtлівасць, няўдзячнасць у людскіх адносінах? Калі ўсё сышло? Не згадаю нават, ці было калі па-іншаму.

Водгукі

# Жанр палітычнага даноса жывы?

Мяне заўсёды абурала, з якім ухілам апазіцыйныя СМІ пішуць пра расійскую «пятую калону» ў Беларусі. Людзі, якія крытыкуюць Лукашэнку за дыктатарства і паліцэйскую дзяржаву, крычаць: куды глядзіць КДБ, куды глядзіць міліцыя!?

Пакінем убаку той факт, што КДБ і міліцыя самі напалову складаюцца з фанатаў Пуціна, і таму звяртацца да іх — гэта ўсё роўна што звяртацца да ахоўніка газавай камеры з просьбай ратаваць ад смерці. Галоўнае не гэта.

Паважаныя, дзе ваш гонар? Калі хто забыў, дэмакратыя — гэта ўлада народа. А не ўзброеных прафесіяналаў з пагонамі і не спецыялістаў ад карнай бюракратыі.

Не займайцеся даносніцтвам рэжыму на сваіх палітычных ворагаў! Рэжым узмацняецца ад ЛЮБЫХ рэпрэсій — што супраць казакоў, што супраць беларускіх нацыяналістаў. Затопчуць «рускі свет», возьмуцца за вас з падвоенай сілай.

Апеляцыя да дзяржавы ў вырашэнні канфліктаў заўсёды ўзмацняе толькі дзяржаву, а не таго, хто апелявае.

Ці вынікае з гэтага, што трэба не заўважаць імперыялістычных баевікоў у Беларусі? Вядома, не. Але ажыццяўляць свае ідэі і самаабарону трэба метадам прамога дзеяння. Прамое дзеянне — гэта ажыццяўленне сваіх правоў явачным парадкам. Замест таго, каб пісаць чалабітныя ў дзяржструктуры, трэба самім рабіць тое, што лічыш патрэбным і справядлівым.

Не буду заклікаць да нейкіх радыкальных дзеянняў. Для пачатку трэ' было б выкласці адрасы, тэлефоны і месцы працы неанацыстаў. Ці прыйсці на іх мерапрыемства вялікай колькасцю людзей, з журналістамі і камерамі — не біцца, а проста ягo сарваць. Варыянтаў маса, толькі не трэба спадзявацца на дзяржаву. Гэтым вы прыніжаеце самі сябе.

**Мікалай Дзядок, былы палітвязень (публікуем у скароце)**

**Ад Рэдактара.** Ёсць пытанні, якія лепш вырашае самаарганізацыя грамадства: магілкі ўпарадкаваць, лес пачысціць ад смецця, канцэрт правесці. А ёсць пытанні, якія павінна вырашаць дзяржава. Для таго яна і створаная народам. Таму я прынцыпова нязгодны з Вамі, Мікалай.

Суверэнітэт можна абараніць толькі дзяржава. Ніякія асобныя суполкі і групоўкі нічога тут не змогуць. Наадварот, толькі стварылі б хаос, які б даў замежным імперыялістам падставу для інтэрвенцыі.

Таму аўтары і чытачы і апелююць да КДБ, Памежнага камітэта і палітычнага кіраўніцтва. Таму мы і падымаем пытанні агульнанацыянальнай важнасці.

Рознімся мы ад вас, анархістаў, і ў стаўленні да сілавых структур. Вы лічыце іх адназначна ворагамі. На нашу думку, без іх не можа існаваць ніякое паспяховае грамадства ў сучасным свеце. Утапічна думаць пра дзяржаву без сілавых структур. Прычым, як паказаў вопыт XX стагоддзя, людзі найбольшай крывёй плацілі менавіта за ўтопіі.

Абарона нацыянальнай дзяржаўнасці, забеспячэнне нацыянальнай бяспекі — асноўныя задачы дзяржавы, і правільна, што грамадзяне настойліва таго патрабуюць. Гэта іх права, і гэта абавязак дзяржавы — рэагаваць.

### Паштовая скрынка

**Міхаілу Б. з Дрэбска Лунінецкага раёна.** Зямельныя спрэчкі — самыя складаныя. Устанавіць праўду і прыняць рашэнне тут можа толькі адпаведны дзяржаўны орган. Газета ж не выдасць Вам акт на зямлю. Трэба збіраць дакументы, і пры патрэбе сведкаў склікаць, і рашаць пытанне праз суд. Іншага спосабу быць не можа.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

Віншаванні



**Віншуем Вольгу і Міколу Волкавых з папаўненнем сям'і.**



Месца сустрэчы

### 13 лістапада — першая сустрэча «Клуба Вітаўта Вялікага»

Першае пасяджэнне гісторыка-культурнага «Клуба Вітаўта Вялікага» адбудзецца 13 лістапада а 18 гадзіне ў «Арт-сядзібе» (Мінск, пр-т Незалежнасці, д. 58, оф. 430).
Ідэя клуба: стварыць пляцоўку для моладзі, якой цікавыя гісторыя і сучаснасць.
Кожнае пасяджэнне будзе абмяркоўвацца асобная тэма, найбліжэйшыя з якіх: «Войска ВКЛ», «Усходняя палітыка вялікіх князёў», «Паўстанне Касцюшкі», «БЗВ».

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай ці праз e-mail або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

# Максім Гаруноў: У Расіі падрастае чарнасоценскае пакаленне

Былы аўтар самага папулярнага сайта расійскіх нацыяналістаў «Спутнік і погром» даў інтэрв'ю «НН».

«Спутнік і погром» — гэта расійскі сайт, які падтрымлівае агрэсію ва Украіне і не прызнае права беларусаў, казахаў, украінцаў на ўласную дзяржаўнасць. У Расіі сярод моладзі ён папулярны. Пазіцыі сайта настолькі радыкальныя, што расійскія ўлады вымушаны былі распачаць супраць яго крымінальную справу. За артыкулы, якія абурылі ўлады Казахстана і Беларусі.

**Максім Гаруноў раней быў яго актыўным аўтарам, але сышоў адтуль у праеўрапейскую «Новую газету». Як гэта адбылося?**

**Максім Гаруноў:** Я сышоў у 2013 годзе, калі пачаліся падзеі ва Украіне. Мне пасля таго пісалі, што я скаціна, жывёла, вырадак, бл*дзь і жыд яшчэ да ўсяго.

**СК: Ну і як яны вам наогул? Як людзі — добрыя яны?**

**Гаруноў** *(задумаўся)*: Ці добрыя яны? Па-мойму, яны дзеці. Падлеткі...

**Арцём Гарбацэвіч: Ці ёсць у «Спутніка» сур'ёзная аўдыторыя?**

**Гаруноў:** Так.

**АГ: І ўся гэтая пісаніна пра Беларусь ўспрымаецца сур'ёзна?**

**Гаруноў:** Так! «Спутнік і погром» — гэта бачанне свету моцнага такога чыноўніка часоў Аляксандра III. Ён жыве ў Пецярбургу і разглядае свет: ёсць гэты незразумелы Заходні край. Там бегаюць беларусы. Ліцвіны. Украінцы. Украінцы — смешныя, беларусы — не вельмі.

Гэты погляд — крайняя ступень нацыянальнага снабізму. Захапленне сваім імперскім становішчам. Калі яны гавораць пра Беларусь — трэба разумець гэты тон. Гэта як маладыя людзі з закрытага мінскага клуба будуць гаварыць аб якім-небудзь звычайным мінскім клубе: «У іх там клуб, уяўляеш. Ха-ха-ха. Яны там "бавяць час"».

**АГ: Ну зразумела, Украіну у Крамлі не расцэньваюць як дзяржаву. *Failed state*. А Беларусь? На нас таксама глядзяць як на *failed state* і мы тут жывём, пакуль нам дазваляюць?**

**Гаруноў:** Так!

**АГ: І калі нам рыхтавацца «ўступіць шасцю губерніямі»?**

**Гаруноў:** Калі гэта ім стане цікава. Хочаце прыклад? Вось у вас у руках ручка. Каму яна належыць?

**АГ: Мне.**

**Гаруноў:** Нічога падобнага. Калі я магу ў вас яе адабраць — то яна належыць мне. А калі не змагу адабраць, то тады вам.

**СК: Дык гэта «Спутнік» памяняўся, а не вы?**

**Гаруноў:** Не. У дачыненні да Украіны былі магчымыя дзве рэакцыі. Рэакцыя прыкладна мая: выгналі махляроў і злодзеяў — як гэта выдатна! Давайце паглядзім, што будзе далей! І рэакцыя «Спутніка»: давайце адбяром у іх Крым і наогул увесь левы бераг. І правы бераг адбяром.

Каб было зразумела, якая была сітуацыя на рынку ідэалогіі ў Расіі ў 2012 годзе. Калі вы малады і актыўны, і вам свярбіць, і вы хочаце пісаць — вы не можаце пісаць за камуністаў. Камунізм жорстка звязаны з рэпрэсіямі, Сталіным, з усімі гэтымі жахамі. Была магчымасць пісаць за лібералаў. Але на лібералах віселі «ліхія дзевяностыя», бандыцкія войны, дзяльба маёмасці.

Адзіная рэч была, незаплямленая нічым — чыстая хуліганская, з юначым напорам, — гэта нацыяналізм. Гэта была terra incognita. Мы думалі, што рускі нацыяналізм — гэта тая Расія, якую мы страцілі. Рускі нацыяналізм да 2013 года — гэта чытаць Буніна, Набокава, шкадаваць пра тое, што з Расіяй зрабілі бальшавікі. Рускі нацыяналізм збольшага найграваў эмігранцкую тугу па еўрапейскай, камфортнай, эстэтычнай краіне. У тых інфармацыйных ландшафтах гэта было нармальна і правільна.

Праўда, пасля падзей канца 2013 года стала абсалютна зразумела, што рускі нацыяналізм — гэта не нацыяналізм. Гэта спецыяльна выведзены ў лабараторыі спосаб абыходжання са словам, які дазваляе ўтрымліваць статус-кво. Вось французская рэвалюцыя — нацыяналістычная. Напалеон казаў, што падчас рэвалюцыі франкі (народ) перамаглі германцаў (арыстакратаў). Мы знішчаем караля-германца — і

## Пачынаем баяцца, што пасля Пуціна прыйдзе яшчэ страшнейшы Пуцін

Францыя становіцца французскай. Г.зн. нацыяналізм — гэта тое, што зрынае рэжым у імя дабрабыту грамадзян. А ў Расіі з яго зрабілі тое, што ўтрымлівае рэжым насуперак інтарэсам грамадзян.

Дарэчы, чаму я зацікавіўся Беларуссю. Бо тое, што тут называецца нацыяналізмам, — гэта і ёсць нацыяналізм класічны. Супрацiў асіміляцыі з боку імперыі. Ваш нацыяналізм жорстка звязаны з грамадзянскай супольнасцю, з лібералізмам.

**АГ: Ці можа рускі быць не імперцам?**

**Гаруноў:** Можа. Я такі. Але Расея ж ніколі не была неімперыяй, і людзям надзвычай цяжка уяўляць сябе не імперыяй, бо тут жа ўзнікае пачуццё, што ты прайграў.

**СК: А што такое быць неімперыяй для Расіі?**

**Гаруноў:** Значыць не мець уплыву на справы ў Беларусі, ва Украіне, у Малдове, у Польшчы... Не мець доступу да спраў, якія б тычыліся ўсёй планеты.

**СК: І вы б хацелі, каб Расія не мела такога доступу?**

**Гаруноў:** Ды не. Слабай, пустой Расіі я не хачу. Як роўны ўплываe на роўнага — гэта іншая справа.

**СК: Вы казалі, што тыя 86%, якія за Пуціна, — проста спалоханыя людзі...**



**Гаруноў:** Гэта страх, які перарос у патрыятычную экзальтацыю. Ты несвядома спалохаўся за сваё жыццё, і каб выратаваць сябе, радуешся Крыму. Логіка такая: хто радуецца — таго не чапаюць.

**АГ: А як вы ацэньваеце ролю прапаганды ў раздзімані «ўра-патрыятызму»?**

**Гаруноў:** Вось ты спалохаўся, і табе трэба гэта як-небудзь схаваць. І прапаганда паказвае табе, як хаваць. Мне здаецца, што руская літаратура, руская філасофія па большай частцы складаецца з таго, што называецца прапагандай.

**АГ: Чаму ў Расіі нараджаецца такая колькасць фрыкаў? Ад казакоў да Залдастанавых? І чаму гэта падтрымліваецца?**

**Гаруноў:** У Беларусі не менш фрыкаў.

**АГ: Ну, менш. Нашы фрыкі — фрыкі, і людзьмі ўспрымаюцца як фрыкі.**

**Гаруноў:** Не-не-не! Так і ў нас да 13-га года гэта былі фрыкі. Праханава на «Эхо Москвы» аб'яўляюць, усе адкідваюцца ў крэсле: ну ўсё, зараз будуць жарты, весела, чад. Цяпер нам будуць распавядаць, «как наші кораблі бороздят...» Большая частка гэтай патрыятычнай тусоўкі, Залдастанаў і іншыя, яны ўспрымаліся як клоўны.

**АГ: А на што вы спадзяяцеся ў Расеі?**

**Гаруноў:** Спачатку ўспрымалася усё як атракцыён. Цяпер пачынаем баяцца, што пасля Пуціна прыйдзе яшчэ страшнейшы Пуцін. Наогул, з усіх прагнозаў мне больш за ўсё падабаецца такі: Расея стане чымсьці тыпу Турцыі. Не Іранам. Дзесьці так, паміж Турцыяй і Іранам. Замест ісламу — праваслаўе.

**СК: Дык Турцыя пасля Атацюрка — гэта гісторыя спаўзання. Расея будзе паўтараць гэты шлях спаўзання ў сярэднявечча?**

**Гаруноў:** Ну, у поўнае сярэднявечча спаўзаць не выгадна. Але ў нешта такое. Год таму, памятаю, іду па Маскве. Марасейка. Сабянін яе вычысціў, паставіў ліхтары французскія, брукаванка падагнаная, машыны толькі з Нямеччыны. Усё кішыць дзяржчыноўнікамі, усе апранутыя ў італьянскія касцюмы. Падыходжу да ЦУМа. Там шыкоўная дзяўчына, да яе падыходзіць мужчына, яны садзяцца ў БМВ 7-й серыі і з'язджаюць, а побач Крэмль і ўсё гэта бліщчыць. Іду далей і тут

## Расея стане чымсьці тыпу Турцыі, замест ісламу — праваслаўе

бачу аб'яву на слупе: «Дапаможы Данбасу!!!». Гэта падобна на адну з фінальных сцэн «Залатога цяляці». Калі Бэндэр дае Шуру Балаганаву 50 тысяч рублёў, яны заходзяць у трамвай, Шура бачыць кашалёк у цётki у сумачцы і крадзе. Яго вяжа міліцыя. Расія таксама ўбачыла кашалёк у выглядзе Крыма, пацягнулася па яго, яе злавілі. І вось гэты рух Шуры Балаганава — калі яго адводзіць міліцыя, — ён махае рукой Астапу «Да пабачэння! Я машынальна!». І я разумею, што больш гэтых прыгожых вуліц не будзе, а будзе ўсё горш і горш.

**СК: А моладзь расейская — гэта надзея?**

**Гаруноў:** Яны цяпер растуць у іншым інфармацыйным асяроддзі. Колькі разоў бываў на вуліцы а сёмай раніцы — школьнікі ідуць на фізкультуру ў парк. І ўсе іх размовы пра тое, што бандэраўцы — сволачы.

**СК: Значыць, вырасце больш небяспечнае пакаленне?**

**Гаруноў:** Адным словам, чарнасоценцы.

**СК: А ці гатовыя рускія сустрэць рэальнага ворага. Не гэтага ўкраінца, які ў рэале ніколі расійскую мяжу не пяройдзе, а сапраўднага. Які будзе падрываць, страляць пад сценамі Крамля.**

**Гаруноў:** Вось я і баюся, што не. Гэта будзе тэст-драйв.

**СК: Зразумела, што дзе б вы ні нарадзіліся — тое месца б і любілі. Дзе б хацелі нарадзіцца?**

**Гаруноў:** Я, акрамя Расіі, нідзе сябе не бачу. Але становішча рускіх і стаўленне да сваёй гісторыі... Уяўляеце, што вы жывяце, любіце свайго бацьку, дзеда, брата, маці. І жывяце вы ў вельмі паспяховай сям'і, значна лепш, чым усе астатнія. Але потым высвятляецца, як ваш дзед закалацiў гэтае багацце. Вы разумееце, што ўвесь ваш дабрабыт забяспечаны пакутамі і болем астатніх. Як вам да гэтага ставіцца? Я для сябе вырашыў гэта так: калі дзяды адбіралі адзін у аднаго — яны ўсе былі прыкладна аднолькава амаральнымі: хто паспеў, той і з'еў. Усе былі амаральнымі, а мой дзед быў амаральным і ўдачлівым. Таму ніякіх асаблівых пачуццяў з нагоды «Расія разарвала Польшчу, Беларусь» я не адчуваю. Праблемы пачынаюцца цяпер, калі ўжо можна жыць не амаральна, а Расея застаецца амаральнай.

## Адзін персанаж кожную раніцу мне пісаў: «Я табе горла перарэжу»

**СК: Якім словам вы можаце апісаць рускі характар?**

**Гаруноў:** Наканаванасць.

**АГ: А як вы ацэніце перспектывы вайны? Такой, дзе забіваюць усіх і праліваюць рэкі крыві.**

**Гаруноў:** Калі ўключыць расійскія медыя, то гэта медыя краіны, якая ваюе. Калі параўнаць радыё, усё што заўгодна, з тым, што было ў Маскве ў 41-м, 42-м, 43-м гадах, то розніцы абсалютна няма. Яшчэ не прагучала фраза: «Колькі разоў пабачыш украінца, столькі разоў яго забі» — ёсць яшчэ нейкія добрыя ўкраінцы, наваросы, нашы людзі.

**СК: У вас такі папулярны блог, і пры гэтым вы ўзялі і памянялі полюс выказванняў. Напэўна, была ў вашых чытачоў незадаволенасць? Магчыма, былі пагрозы?**

**Гаруноў:** Адзін персанаж кожную раніцу мне пісаў: «Я табе горла перарэжу».

**СК: У рэальнае жыццё гэта пераходзіць?**

**Гаруноў:** Смешная рэч. Быў мітынг Антымайдану. Я прыйшоў паглядзець. Іду праз натоўп — і ўсе людзі, якія абыйшлі са мной нешта нядобрае зрабіць, адварочваюцца.

**Гутарылі Стась Карпаў і Арцём Гарбацэвіч**

# Восень, выбары, у Бога не верыце? Компас згублены

Дзённік мінчука, які пераехаў у дзедаву хату на Палессі. **Частка 3.**



Вёска, куды вярнуўся Андрусь Горват, называецца Прудок. Гэта ў глушы Палесся, каля мяжы з Украінай, 300 км на поўдзень ад Мінска. У Прудку жыве каля 150 чалавек. Найбліжэйшыя ад яе гарады — Хойнікі і Калінкавічы. Калі ведаеце знакамітыя вёскі Юравічы, Аўцюкі ці Каранёўку («Людзі на балоце» Мележа) — гэта побач.

Зарабляў Андрусь Горват фрылансам. Хацеў пайсці настаўнікам у Юравіцкую школу. Дык не ўзялі. Разлічвае ён цяпер на пракорм са свайго вялікага агарода.

У першай публікацыі (№24) мы развіталіся з ім 15 чэрвеня, на піку лета. У другой (№41) — 2 верасня, калі скончылася кладка грубы.

**3 верасня**

У вёсцы Боруск жыве мой стрыечны дзед Косцік і ягоная жонка баба Гаша. Мы з бацькамі часта ездзілі да іх, калі я быў малы. На вяселлі іх дзяцей, на іншыя святы ці проста з нагоды. Гэта была не такая краіна, як у нашым савецкім Петрыкаве, дзе я хадзіў у школу. У Боруску вышывалі, ткалі, спявалі народныя песні, працавалі, кахалі, жартавалі, размаўлялі па-беларуску, гатавалі вясковыя стравы, замаўлялі ад уроку, даглядалі адно аднаго. Там на печы жыла гарбатая бабця за сто гадоў (маці бабы Гашы). Пад печчу — дамавік. Дзед выбраляў з драўніны неймаверныя рэчы — ад лавы да галавы лася. Там, у Боруску, склалася маё ўяўленне пра Беларусь. Менавіта такой я бачу яе дагэтуль.

Летась я ізноў прыехаў у Боруск пасля доўгай мінскай эміграцыі. Ад вялікай вёскі — ад маёй Беларусі — амаль нічога не засталося. Навакольныя лясы засцінулі Боруск у сваю мёртвую цішу. Дзед з бабай сталі старымі, хвароба скруціла іх і цягне да зямлі. Іхні сын — дзядзька Валодзя — час ад часу разбівае цішыню начным стрэлам у ваўкоў.

**3 верасня**

Прудкаўская пошта пачынае злавацца на імя Андрусь у афіцыйных дакументах.

Я ўпарта ўсміхаюся.

— Ёсць жа, — кажу, — Кастусі. Чым вам Андрусі не падабаюцца?

— Няма такога імя, — кажуць. — Кастусь ёсць. Андруся няма.

— Вось ажанюся, — кажу, — стану Андрэем.

— Ну то хутчэй жаніся.

— Але калі мае дзеці ажэняцца, — ізноў кажу, — буду ўжо Андрыяшам.

— Андрыяшу пенсію не дамо, — кажуць. — Андрэю дамо, Андрыяшу не дамо.

**3 верасня**

З песень бабы Гашы:

Трудна жыці на чужыні, не маючы роду.

Перарабілась у шэру зязюлю да ў род уляцела.

Уляцела ў сад — сад раднесенькі,

Стала на калена, стала кукаваць

Шчэ й расказваць — як жыць на чужыні.

— Калі доч мая, доч раднесенька, захадзі ў хату,

Калі зязюля, зязюля шэрая, вылятай з саду.

— А я доч твая, доч раднесенька, не пайду ў хату.

Я зязюля, зязюля шэрая, не вылечу з саду.

**4 верасня**

Пакуль тынкаваў дымаход, падумаў пра тое, што ў вёсцы традыцыйныя сем'і мусяць быць шведскімі. Каб паспяваць усё рабіць, трэба прынамсі чатыры пары рук. А яшчэ калі губляць час на псіхатэрапеўтычныя сямейныя размовы, якія пачынаюцца з «Я адчуваю, што ты перастаў мною цікавіцца», хвасоля палупіцца і пападае ў зямлю.

Спешна трэба рваць хвасолю.

Праграма на заўтра: гараваць і не думаць.

**5 верасня**

Ромка прыцягнуў у ложак дохлага пацука, які жыў пад страхою над сенцамі.

**6 верасня**

У дзявятым класе я быў закаханы ў настаўніцу беларускай мовы. Я нават прызнаўся ёй у гэтым праз газету «Чырвоная змена». Але пад прызнаннем стаялі мае ініцыялы — каб яна не здагадалася. То яна й дагэтуль не ведае.

А ўчора вучаніца-дзевяцікласніца маёй віртуальнай школы напісала мне: «Я вас кахаю».

І ведаеце, што? Я ўзрадаваўся. Бо яна ўпершыню напісала па-беларуску без памылак.

**6 верасня**

Галоўная вуліца ў Аўцюках мае даўжыню 7 км.

Калі дзве бабулі, якія жывуць на розных канцах вёскі, захочуць перадаць адна адной інфармацыю, ім прасцей пісаць тэлеграмы праз райцэнтр.

**6 верасня**

Перанёс сёння на гарышча 800 кг гліны, а маці й кажа: «Каб мне хто сказаў, што мой Андрэйка будзе працаваць рукамі да трэцяга поту, я б пайшла ў заклад на карову, што такога ніколі не будзе. Ён жа ў мяне толькі кніжкі чытае».

А бацька, памятаю, заходзіў да мяне, а я сядзеў за сталом пад цьмяным святлом лямпы і перапісваў у сшыткі бібліятэчную кнігу «Древняя Русь и Великая степь». Ён доўга-доўга глядзеў на мяне, ні разу так і не наважыўся нічога сказаць. Але я і так разумеў яго расчараванне. І перапісваў «Древнюю Русь» яшчэ больш спрытна. А потым узяў і напісаў раман, які называўся «Аповесць аб сапраўдным сыну» — пра хлопчыка, які згубіў свайго бацьку і шукаў цягам доўгіх гадоў.

Гэта я тады думаў, што бацьку можна адшукаць на бязлюдным востраве. А папраўдзе, ён тут — у хаце, дзе нарадзіўся. Тэлефаную хлопчыку і кажа: «Хачу зноў прыехаць, каб дапамагчы табе насіць гліну на гарышча».

**7 верасня**

Старадаўні палескі спосаб, як зрабіць аконную замазку: змяшаць вапну з алеем. Потым можна замаляваць разам з рамай. Вельмі простая і, як сцвярджае традыцыя, функцыянальная сумесь.

А можна пайсці наўпрост у краму і купіць якуюсь хімічную херню ці хаця б пластылін.

Але гэта нудна.

**11 верасня**

Шэсць месяцаў я пражыў у каморы. Калі б я не меў свайго прозвішча, юравіцкі святар запісаў бы мяне ў метрычную кнігу Каморнікам. Паўгода мая актыўная жыллёвая плошча складала два на два на два метры. У гэтым кубе з маленькай дзіркай у сцяне можна спаць, есці, адпачываць, пісаць тэксты, глядзець кіно, чытаць кнігі. У кубе я навучыўся быць аскетам. Усё думаў: вось зраблю рамонт у хаце, тады й перасялюся. Але рамонт, напэўна, скончыцца разам з маім жыццём.

Учора перасяліўся. Паўночы сядзеў у ложку, глядзеў на прастору і думаў, што з ёй рабіць, як у ёй не згубіцца.

Год таму я напісаў: «З сёння ў мяне ёсць свая хата».

Учора я падумаў: «Ад сёння я маю сваю хату».

**15 верасня**

У Мазыры самая вялікая канцэнтрацыя прыгожых жанчын на квадратны метр. У мяне ажно вочы баляць.

**15 верасня**

Пісаць раман — гэта толькі змадэляваць пэўныя ўмовы для пэўных персанажаў. Далей проста штовечар назіраць за развіццём. Ад мяне патрабуецца быць уважлівым чытачом. Гэта так захапляе, што варта было пачаць, каб толькі пражыць сам працэс.

**17 верасня**

Прыязджала ў госці мама.

— Што ты там пішаш?

— Раман.

— Пра што?

— Ай, ты не зразумееш.

— Думаеш, у цябе такая тупая мама?

— Ну, увогуле, гэта антыўтопія з элементамі...

— Чай будзеш?

**21 верасня**

Дзед наўмысна рабіў дзверы такімі нізкімі, каб кожны, хто ўваходзіць у хату ці выходзіць з яе, пакланіўся.

**21 верасня**

Варвара:

— Што трэба сказаць?

Каток (Варварыным голасам):

— Спасіба.

Варвара:

— Ты малайчынка. Але сядай — два. У нас урок беларускай мовы.

**23 верасня**

Прыходзіць бабуля з лесу. А я дыні на варэнне рэжу.

— Іду па лесе, — кажа, — спрабую грыб унюхаць, а пахне дынямі. Цю-ю-ю, думаю. І так дыньку захацелася.

Даў.

А ўчора крышанёўская цётачка два кавуны «ўнюхала».

**24 верасня**

Хачу насенне кветак, якія ядуць мух. Яшчэ трошкі — і мяне ні пачуцце гумару, ні аптымізм не ўратуюць. Яшчэ трошкі — і я вазьму на сябе місію пазбавіць свет ад мух. Яшчэ трошкі — і я зраблю вялікую мухабойку і пайду па свеце.

**25 верасня**

Калі б я пайшоў уладкоўвацца на працу ў калгас імя Фелікса



ФОТА З ФБ ГОРВАТА

**«Нешта паменела ў мяне сёння энтузіязму. У мроях былі такія прыўкрасныя вырабы з карункавымі арнаментамі. А на справе атрымалася лыжка для галоднага бамжа. Доктар, я ні на што не здатны».**

Эдмундавіча Дзяржынскага, маё рэзюмэ выглядала б так:
1. Сацыяльны работнік.
2. Дыстрыб'ютар касметыкі, кніг, бытавой тэхнікі.
3. Расклейшчык абвестак.
4. Начны вартаўнік у кіёску.
5. Аўтар, рэжысёр, мантажор тэлевізійнай прадукцыі.
6. Дызайнер газет, часопісаў, кніг, прадукцыі праваслаўнага манастыра.
7. Аўтар, галоўны рэдактар, намеснік галоўнага рэдактара ў газетах і часопісах.
8. Дворнік на рынку і ў тэатры.
І знізу допіс: лёгка вучуся новаму.

### 26 верасня

Мне 32, і я ніколі ў жыцці не галасаваў.

### 29 верасня

Мой стрыечны дзядзька з Боруска (сын бабы Гашы і дзеда Косціка) робіць неймаверныя рэчы з драўніны. Гэта сапраўднае палескае майстэрства, што перадавалася з пакалення ў пакаленне. Некалькі дзён я выношваю ідэю пайсці да яго ў падмайстры і заваліць свет прыгожымі рэчамі: ад лыжкі да хаты. Мы б распачалі мануфактуру, калі свет таго захоча і выкажа гэта хаценне першай сур'ёзнай замовай. Ёсць тэорыя, што калі нешта варта зрабіць, то Космас дапамагае распачаць.

Космас, я тут і я ўважліва цябе слухаю.

### 29 верасня

Трэба проста зрабіць гэта. Мой дзед зрабіў бы. Ён быў ворагам народа ў 17 год, спаў стоячы ў лесе і нічога не баяўся. Мой бацька зрабіў бы. Ён 102 разы скочыў з парашутам, камандаваў палком і нічога не баяўся. Трэба проста зрабіць гэта. Трэба проста выліць на сябе раніцай вядро ледзянай вады са студні.

### 29 верасня

Першы тэлефонны званок быў ад Алісы. Я палоў фасолю. І тут — Аліса.

— Здароў. Ты дзе?
— У агародзе.
— У якім агародзе?
— У сваім. А хто гэта?
— Ты што — не пазнаў? Гэта Аліса.
— Якая Аліса?
— Саня?
— Не, не Саня.

Наша гутарка перарвалася. Ну, памылілася дзяўчына — з кім не бывае. Фасоля палолася далей. А Аліса забывалася.

Мо б і забылася, калі б назаўтра не было Надзі.

— Не, не Саня.
— Праўда, не Саня?

Я і сам шкадаваў, што не Саня.

А другой ночы прыйшла эсэмэска: «Ты дзе?» — «Сплю». — «Казёл!»

Пакуль фасоля расла, сохнула і лупілася, я пераназнаёміўся з усімі Саневымі дзеўкамі: Машай з цягніка, Светай з трэцяга курса, Ленай з клуба, Тамарай з кавярні, Хрысцінай з Маладзечна, Наташай — Свецінай сяброўкай, Златай з трыццаць чацвёртага тралейбуса...

Я сабраў фасолю. Я заквасіў агуркі. Я патынкаваў сцены.

Саня схадзіў у кіно. Саня пасядзеў у кавярні. Саня патанчыў у клубе.

Нарэшце мне надакучыў гэты спрытны ненажэрны хлопец. Годзе ўжо — сказаў я сабе. А яму даслаў эсэмэску: «Дарагі Саня, сам паведамляй сваім дзеўкам, што ў цябе *Velcom*».

Саня адказаў: «Дарагі Андрусь, сам паведамляй сваім піларамам, сельсаветам і паштаркам, што ў цябе МТС».

### 30 верасня

У мяне за хатай жыве таямнічы дзядок. Ён прасвідраваў у сцяне нябачную дзірку і праз яе прасоўвае ў хату мух. Потым зазірне ў дзірачку, паглядзіць, як я бегаю з мухабойкай, і ціхенька смяецца. Гэта адзінае лагічнае тлумачэнне, што я маю.

### 30 верасня

Мой пляменнік вучыцца ў сёмым класе. Ён не ведае, што такое аловак. Калі я размаўляю з ім па-беларуску, ён на мяне глядзіць і ўсміхаецца. Глядзіць, усміхаецца і нічога не разумее.

У мяне з пляменнікам адна школа, адна настаўніца. Толькі 20 гадоў розніцы.

### 2 кастрычніка

Сёння разоў дваццаць чуў грукат у дзверы.

Адчыняю — нікога.
Думаю: хто ж там?
А там дзятлы.

### 3 кастрычніка

Пра кіслыя бліны людзі па той бок МКАДа ўвогуле не чулі. А гэта ж самае смакоцце! Пайду ўчыню на заўтра.

### 4 кастрычніка

Два гады таму я шукаў менавіта Ромку. Менавіта такога. Знайшоў абвестку ў інтэрнэце, якую даў валанцёр. Ромка тады скочыў яму ў машыну і не хацеў выходзіць.

Сёння Рому збіла машына.

Ён з раніцы вельмі хацеў малака. Ён ведае дні, калі і ў колькі я хаджу па малако. Заўсёды мяне суправаджаў — плёўся крыху ззаду. Як і сёння. Я здалёк бачыў, як ён выйшаў на дарогу.

Я мусіў яго падстрахоўваць. Гэта ўрок на ўсё жыццё — пільна сачыць за тымі, хто давярае і ідзе ўследкі.

Цяпер Ромка ляжыць пад маладой бярозкай за хатай. Побач у міску наліта малако.



### 5 кастрычніка

Зноў сніўся той самы дзед. Мы ў сне ноччу сядзелі на падлозе перад грубай і выразалі драўляныя лыжкі. Гэта не мой дзед, але ў сне ён быў гаспадаром хаты. Было спакойна. Ромка спаў дзе заўсёды. Трашчалі дровы. Дзед павольна распавядаў. Потым я выйшаў у двор да студні папіць вады і ўбачыў, што хата ўся свеціцца.

Я прачнуўся, але паспеў пачуць словы дзеда ўздагон:

— Гэта любоў.

А мо то не дзед сказаў, а я сам так падумаў.

Паўгода я напаўняў хату любоўю. Сёння яна напаўняе ёю мяне. А боль трашчыць у грубе.

Вось Ромка залез на гарышча. Вось Ромка выйшаў у двор. Вось Ромка сустрэў мяне з крамы. Вось Ромка завёў сабе брунетку. З'еў муху Наташу. Прыцягнуў пацука. Не даў спаць. Вось Ромка грэецца ля грубы. Вось ён у свой апошні вечар прытуліўся да майго пляча. А я сказаў яму:

— Мы з табой каманда, Ромка.

І я па-ранейшаму кладу ногі ў ложку не пасярэдзіне, а збоку, каб пакінуць месца для Ромкі. Я па-ранейшаму сяджу за сталом так, каб Рома мог легчы на калені.

І гэта не боль, а любоў. Не смутак, а падзяка. Не пачуццё віны, а пяшчота.

Мы — банда-каманда.

**Святлана Курс:** «Я вам па першым допісе хацела напісаць, што гэта вы блаславёны. Мне мая бабка расказвала пракаветны наказ: «Калі к табе прыходзіць сівы дзядок, слухайся, гэта Бог». Але стрымалася, бо неяк патэтычна. Аднак, думаю, гэта так».

### 6 кастрычніка

Хаджу па хаце, вучу свой маналог.

— Дзядзька Валодзя. Я не ўмею размаўляць па-барусканску. Але я навучуся. Я ўжо ведаю, што малатком — гэта малаткэм. Я не ўмею працаваць тым малаткэм. Але таксама навучуся. Вы толькі пацярпіце. Вы, скажу, майстар ад Бога. А я, таксама скажу, маю падвешаны язык і ўменне прадаваць электрачайнікі. Давайце мы разам зробім што-небудзь патрэбнае. Напрыклад, таўкачыкі для бульбы. Давайце, скажу, выражам на іх арнаменты і будзем у трэндзе. А калі не будзем у трэндзе, то будзе трындзец мне.

А ён мне такі:

— Андрэйка, што ты там бармочаш? Чаго ты хочаш?

А я яму такі:

— Хачу рабіць простыя рэчы.

А ён мне такі:

— То йдзі і зрабі таўкачык для бульбы.

А я яму такі:

— Дык давайце разам зробім.

А ён мне такі:

— Так бы адразу і сказаў. А то — бэ-мэ. Хочаш — рабі. Не хочаш — не рабі. Усё ж проста. Павывучваюцца ў сваіх універсітэтах, а два словы звязаць не могуць.

### 7 кастрычніка

Маці прыехала канапаціць вокны. А я сяджу ў крэсле пасярод хаты і распавядаю ёй пра Льва Сапегу.

— Не дуры мне галавы, — кажа. — Ідзі канапаць.

Іду.

### 8 кастрычніка

У старшых класах я рабіў даклад пра «Чарнобыльскую малітву» ў раённай бібліятэцы. Мерапрыемства было прысвечана славутым землякам Петрыкаўшчыны. З тых часоў Святлана Алексіевіч для мяне не толькі беларуская, але і зусім наша рэгіянальная пісьменніца. З Нобелем ці без Нобеля. Наша! Віншую!

### 10 кастрычніка

У кожным прудкаўскім двары сёння б'юць дровы. Сусед за канавай б'е. Мужык ля крамы б'е. Я б'ю. Нашыя сякеры гамоняць адна з адной, расказваюць пра моц рук і гатунак дрэва. А вецер шэпча пра восень. А вецер шэпча, што Зямля ляціць у Космас. Дзяды на могілках хваляцца адзін аднаму:

Працяг на старонцы 14.



# Восень, выбары, у Бога не верыце? Компас згублены

Працяг са старонкі 13.

Мой ужо пабіў усе дровы. І мой. Так было заўседы. І няма мне справы да выбараў. Свой выбар я ўжо зрабіў.

**11 кастрычніка**

Чытаю пра выбары — і мне сорамна.

Хочацца пайсці ў лес, скінуць з сябе споднее і сказаць вавёркам, што я не беларус, а хвоя.

**11 кастрычніка**

Гляджу я на леташнія фоткі хаты, параўноўваю іх з сённяшнімі і думаю пра тое, адкуль у мяне было столькі дурной смеласці распачаць.

Вочы баяцца, а рукі робяць.

У хаце +28. Навошта з такога цяпла з'язджаць? Тут добра.

**12 кастрычніка**

Пайшоў быў я ў Боруск да дзядзькі Валодзі.

Па дарозе пакланіўся дзедавай магіле. Пагаманіў з хвоямі ў лесе.

У Боруску павітаўся з бабцяй.

— Добры дзень, — кажу.

— Добрага здароўя.

Другой бабці кажу:

— Добрага здароўя.

А яна мне:

— Добры дзень, галубок.

Баба Гаша не надта ўзрадавалася майму прыходу, бо якраз ладкавала свежыну. А тут я прыпёрся — ахвочы да сала.

Дзядзькі Валодзі дома не было.

Я расказаў дзеду Косціку пра жаданне навучыцца рамяству. Ён выслухаў мяне, пакашляў, выйшаў «кудыліся» і прынёс «адтуліся» разец і ножык.

— Калі маеш ахвоту — будзеш мець і работу.



ФОТА З ФБ ГОРВАТА

**Слухае Ромка канцэрт Вінакура На траскучым без спыну канале «Культура».**

Ну, дзед-барадзед-рыфмаплёт.

Пайшоў быў я назад у Прудок. Распаліў грубу. Расклаў інструменты.

Вось табе, Андрусік Іванавіч, разец і ножык. І ў цябе ёсць тры тыдні, каб зарабіць доні на аліменты.

**13 кастрычніка**

Дзед: То мо кукурузу вязуць?

Баба: Кукурузу пруць, ага.

Дзед: Во, адумаліся. Памерзла. Бач, якая белая. Каб зялёненькая была, а то такая белая. Во як!

Баба: Дык ён у Акцябры колькі год пражыў. Там на паляванне хадзіў, там сябры ў яго. Сябры не якія папала. То настаўнікі. То міліцыянеры.

Дзед: Была зялёная кукуруза...

Баба: Дык туды хоча.

Дзед: Чакаюць, пакуль памерзне...

Баба: Жыць няма дзе. Я кажу: там што — у сяброў будзеш жыць? У алкашоў? Што заробіш, тое прап'еш. І галодны, і ўсякі будзеш.

Дзед: Ужо падурэлі людзі.

Баба: Дык цяпер матак ніхто не слухае.

Дзед: Начальства недалёкае. Сядзелі, пакуль кукуруза не памерзла.

Баба: Гарэлка даражэй усяго на свеце, дарожэй жыцця. Я казала і казаць буду.

Дзед: Сухую ўбірае... Эх, падлы! Іці вашу маць! Чэрці! Дзе б зялёную ўбралі, дык польза б была. Скаціна!!! ...Накорміш ужо... Сухою...

Баба: Галодныя паядуць і сухую.

Дзед: Сухое — гаўно то сабачае! То зялёненькае! А то сухое!

Баба: Ох-ох-ох.

**14 кастрычніка**

— Ты ж, — маці кажа, — барані Божа, нічога не рабі сёння, бо свята.

— А лыжку выразаць можна?

— У хаце, — кажа, — можна. У хаце ўсё можна. У двары нічога не рабі, каб людзі не бачылі.

**14 кастрычніка**

Шкада, што няма такой паслугі — «Бабка на зіму». Я б выпісаў адну. Яна б ляжала за грубай. І мы б размаўлялі.

**15 кастрычніка**

Мышы па начох спрабуюць адсунуць накрыўку на чыгунку, каб дабрацца да маёй кашы.

А ў Варварыным міжрам'і транслюецца экспазіцыя «Гнёзды птушак Палесся на ваце з шышкамі».

А ў хаце засталася адна муха з высокім інтэлектам. Яна перасоўваецца толькі ў цемры.

**17 кастрычніка**

Час ад часу я хачу стаць вельмі багатым і вельмі ўплывовым дзядзькам. Не для таго, каб на «Бэнтлі» дзевак у Парыж вазіць, а каб можна было набраць нумар на засраным мухамі тэлефоне і сказаць:

— Коля? Што чуваць у школе? Бацьку пазаві. Рыгоравіч, здаровенькі быў. Што за херня з адлічэннямі кадэтаў? Выпраўляйся, Рыгоравіч. Апошняя заўвага табе. Давайпака.

Гэта адзіная матывацыя, каб стаць багатым і ўплывовым — каб можна было проста набраць нумар на засраным мухамі тэлефоне і абараніць дзяцей ад дарослых.

**18 кастрычніка**

Я шмат усяго магу дараваць мышам. Толькі не лён! Ну як можна было лён зжэрці, падлы вы кашлатыя, небеларускія!!!

**20 кастрычніка**

А я компас згубіў. Апошні месяц жыву без компаса. І мне здаецца, што я дайшоў да нейкай Нетуды.

**21 кастрычніка**

Восень, дождж, печ, дровы, вецер у галінах бэзу, цётку з парасонам на ровары і гарачую гарбату прыдумалі наўмысна для пісакаў.

Кастрычніцкая ціша.

Здаецца, рух Зямлі ў Космасе спыніўся.

Я ўпэўнены, што ўсе газеты сёння напісалі, што мы больш нікуды не рухаемся.

Рух адмяняецца. Перадайце ў Цэнтр: рух адмяняецца.

**22 кастрычніка**

Компас дагэтуль не знайшоўся. Мо хто памятае, куды я збіраўся ісці? Я тады сказаў: «Бывайце здаровенькі, а я пайшоў у...» У светлую будучыню? У заможнае жыццё? У трудагалізм / нацыяналізм / пафігізм / дармаедства / хрысціянства?

**22 кастрычніка**

Мне кажуць: Андрусь, не naganяй тугі.

А я ж не тугу хачу нагнаць, а аптымізм. А аптымізм трэба наганяць на шэрае. На белым яго і так зашмат.



ФОТА З ФБ ГОРВАТА

**Дзённы выпуск перадачы «Вы не паверыце».**

Маці перадала каньяк (не панікаваць — гэта валюта, а не пітво для мяне).

Сіцылійскія мафіёзі — дык проста дзеці на фоне брутальных палескіх мам. У нас тут найлепшы самагон і найлепшае сала ідуць на магарыч. Магарыч — гэта падзяка за працу, а не хабар. А за працу трэба дзякаваць толькі найлепшым, што ёсць. У адрозненне ад хабару, магарыч адносіцца да традыцыйнай культуры, а не да крыміналу.

Калі будзе кепска, проста падумайце, што недзе ў глухой глушы, у ціхай цішы зімуе адзінокі мужчына без ката, працы і перспектыў. Ён не скуголіць, не п'е і не расчароўваецца.

Наказваю!!! У складаных сітуацыях:

1. Не панікаваць.
2. Не піць.
3. Аналізаваць сітуацыю і шукаць выйсце.
4. Верыць. Проста верыць. Тупа верыць.

**23 кастрычніка**

Сядзіш такі галодны і здзічэлы ў прыцемку ля грубы,



ФОТА З ФБ ГОРВАТА

**Не ведаю, ці існуе на гэтым ці якім іншым свеце варэнне з кавуноў, але выглядае яно так. А куды два мяхі кавуноў падзець? Нават Варвара ўжо кажа: «Я буду есці ўсё-ўсё-ўсё, толькі не кавуны».**




**Восень у Прудку.**

з уяўнымі сябрамі гамоніш. Не ведаеш, які ўжо дзень ці год. А тут — грукат у шыбу і на фоне цемры, што насоўваецца з лесу, галава дзядзі Віці, якога ты ў дзяцінстве на кожную Радаўніцу бачыў. Усрацца можна. Але я стрымаў.

### 24 касчтрычніка

Жыццё ў вёсцы — гэта сядзець а шостай раніцы на сінім табурэце ў цёмным пакоі і слухаць класічную музыку па радыё.

### 24 кастрычніка

Мінск мілы. Толькі дворніку Купалаўскага перадайце, каб не лайдачыў. Ці цыдульку няхай піша, што хварэе. Хаця, як казала Марыя Іосіфаўна, тэатральная аканомка, што гэта за мужык, калі з тэмпературай 38 не можа выйсці на працу.

### 24 кастрычніка

Вагаўся, што купіць: новыя шкарпэткі ці новы «Дзеяслоў». Калі падумаць, старыя шкарпэткі — не такія ўжо і дзіравыя.

### 26 кастрычніка

Шэсць дзён таму будаваў я дрывотню пад дажджом. «Я ж ніколі не хварэю», — падумаў я і захварэў. Усе гэтыя шэсць дзён праляжаў з тэмпературай 38.8, якая не збівалася. Ну, як праляжаў? Пасадзіў маліну, з'ездзіў у Мінск, перадаў бабулі Варвару. Учора вярнуўся ў Прудок, лёг і падумаў, што могуць прыйсці кандарыкі. Ці хандарыкі. Яны, мусіць, сваякі між сабою. Прыйдуць, а я ўвесь такі непадрыхтаваны. У хаце не прыбраў. Тэстамент не склаў. Куды ўціснуць слова «анігадкі» на надмагільнай пліце, не прыдумаў.

Прачнуўся а шостай — 36.6. Паслухаў радыё — 36.6. Схадзіў па малако — 36.6. Ці то скласці тэстамент, ці то дрывотню далей будаваць. Ці то да смерці рыхтавацца, ці то да жыцця.

Верачка з'ела сала ў пастцы. Тут два выйсці: кот ці ядзерная бомба.

### 26 кастрычніка

Сёння ж праз прадаўчыху пушчу плётку па вёсцы, што Пісака шукае Ката.

### 29 кастрычніка

Прывітанне! Я амаль нармалізаваўся. Толькі левае вуха не прыкручваецца на месца. А так — нармальна.

*[Працяг (спадзяёмся) будзе. Друкуецца скарочана. Поўная версія — на сайце NN.BY. Абсалютна поўная — у фэйсбуку Горвата.]*



Фоты з Прудка — Сяргея Гудзіліна, акрамя пазначаных асобна.

# Выбары ў Прудку

Калі Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію, мы з маці нарэзалі бутэрбродаў і селі глядзець інтэрнэтаўскую прэсканферэнцыю. Але нобелеўская лаўрэатка пачала расказваць пра Лукашэнку неспадзеўкі. Маці не вытрывала і выйшла з пакоя. Яна спужалася слухаць «забароненае».

У Прудку і суседніх Аўцюках я не знайшоў ніводнай бабці, у якой не было б стандартнага набору высноваў. Першая: Лукашэнка — харошы чалавек. Другая: чыноўнікі ўсіх узроўняў — крывапіўцы. Трэцяя: Лукашэнка ездзіць і вучыць усіх чыноўнікаў працаваць, але ён адзін і не паспявае ўсё ўгледзець. І пятая: калі б усе слухаліся прэзідэнта і рабілі тое, што ён скажа, мы б даўно жылі лепей за амерыканцаў.

Праз кожныя пяць хвілін бабулі пачыналі хваляваціся, што іх пасадзяць за такія размовы. І самі сябе суцяшалі:

– Няхай садзяць! Мне ўсё роўна хутка паміраць.

Я дык не бачыў, за што іх можна пасадзіць. Там хіба што грамату выпісаць за вернасць рэжыму.

Сёлета апазіцыя заклікала байкатаваць выбары. Я сядзеў у сваім Прудку і думаў: каго яна заклікае? Бабу Волгу, якая побач з Дзевай Марыяй павесіла партрэцік Лукашэнкі з газеты і вышывае крыжыкам на яго ручнік-набожнік?

### Вы што — супраць?!!

Калі яшчэ толькі збіралі подпісы за кандыдатаў, я, увесь памяты і непрычасаны, выбег у краму. Думаю, куплю хуценька хлеба, ніхто і не пабачыць. Калі б ведаў, што патраплю ў гісторыю, апрануў бы пінжак у дробную палоску, які зьбірае пыл у шафе.

Пад брылём крамы мой рух спыніла жанчынка.

— Хто такі? Чый будзеш? Зарэгістраваны тут? Пашпарт з сабой?

У Менску я звычайна насіў з сабою пашпарт: то міліцыянты ў метро патрабавалі (асабліва калі я працаваў ночку за камп'ютарам і выглядаў апасля не як сярэднестатыстычны менчук), то яшчэ якая нагода магла здарыцца. Аднак у вёсцы звычка хадзіць паўсюль з пашпартам сцерлася.

— То нічога. У сельсавеце перапішу. Распішыся тут.

Вы ўяўляеце — яна нават не запытала, ці маю я ахвоту падтрымаць яе кандыдата Лукашэнку? У яе галаве з фарбаванай прычоскай наверсе нават не ўзнікла думка, што я магу не захацець аддаць подпіс за яго! Не, я не з'яўляюся актыўным апазіцыянерам. Але ж гэта натуральна, калі людзі маюць розныя меркаванні, калі падтрымліваюць розных кандыдатаў. Гэта асновы плюралістычнага грамадства. Але пра што я кажу — мы ж пад брылём прудкаўскай крамы! Тут не можа нават думка ўзнікнуць: падпісацца ці не падпісацца. Звычайная працэдура. Усе падпісваюцца. Трэба як усе.

А я адмовіўся.

– Вы што — супраць?!!

Мне ажно паплахела ад той інтанацыі. Дагэтуль вечарам баюся, што сасню ноччу эпізод пад брылём.

І яно на мяне (уяўляеце?) падзейнічала:

– Не, не супраць.... Чаму адразу супраць...

Я толькі шэсць месяцаў пражыў у вёсцы пасля пятнаццацігадовага сталічнага жыцця, і ўжо гатовы быў здацца. Вой-вой-вой, думаю, нічога ж сабе! Але знайшоў што сказаць цётачцы пра ейныя выбары. Мы нават троху паспрачаліся, яе гэта выбары ці мае.

І наўздагон я пачуў самае нечаканае, на што дагэтуль не магу прыдумаць адказу:

– Вы што — і ў Бога не верыце?

Гэта XXI стагоддзе. 62 гады таму памёр Сталін. А баба Воля ў Аўцюках вешае партрэт Лукашэнкі ля Дзевы Марыі. А прудкаўская цётка выкрывае маю няверу ў Бога праз няверу ў выбары прэзідэнта. А ў Менску апазіцыйныя лідары заклікаюць да байкоту...

### Трэба як усе

Маці, калі даведалася, што я яшчэ вагаюся, ці буду галасаваць увогуле, «забожкала»:

– Ты што?! Ты ж у вёсцы жывеш! Гэта ў горадзе не прагаласаваў — і ніхто не даведаецца. А тут усе ведаць будуць. Трэба як усе. Няможна вырадкам быць.

І хто сказаў, што беларусы — хутаране, што мы не можам выступаць адзіным арганізмам? Яшчэ як можам! Жыць як усе — нашае святое ўменне.

– Мама, — кажу, — а што такое страшнае здарыцца, калі ты возьмеш і не прагаласуеш?

– Ай, Андрэй, як я ў вочы людзям глядзець буду? Што яны пра мяне падумаюць? А калі даведку якую ўзяць — хто яе мне дасць? Мы ўсё роўна нічога змяніць не зможам. І хто сказаў, што будзе лепш з новым прэзідэнтам?! Не дуры мне галаву — трэба рабіць, як рабілі і як робяць усе.

### Беларускі дзэн

Мы пойдзем і прагаласуем, бо ў лістападзе брыкет выпісваць, бо пазыка за электрычнасць праз новую канапу ў крэдыт, бо Прыпяць штогод падбіраецца да ўчастка, і няможна ўжо, каб хата так блізка стаяла ля ракі. Не прагаласуеш, станеш ворагам — і ўсе гэтыя хібы пачнуць муляць вока сельсавету. І ўсе гэтыя ранейшыя дамоўленасці анулююцца. А калі хто яшчэ працуе, то будуць праблемы і на працы. Нам ёсць шмат чаго баяцца. Не толькі вайны і зменаў.

Лукашэнка не замінае беларускаму дзэну — сядзець на ўскрайку сусвету і назіраць, як усё вакол змяняецца і як нічога не змяняецца ўдома. Мы захраслі ў гэтым стане. Пасля кароткіх хістанняў дзевяностых гэты дзэн нарэшце ізноў усталяваўся.

### Вірусныя Дзядзі Віці

Бо любой з'яве знаходзяцца тлумачэнні ў гісторыі. І, каб зразумець сутнасць, трэба спрабаваць глядзець на ўсе хібы пафіласофску.

Гэтак жа я не хачу запэўніць у бязвыхаднасці. Бо сёння прыязджаў да мяне трактарыст дзядзя Віця і выказваў сваю нязгоду з тым, што бачыць навокал. Ён не п'е, шмат працуе і мае аўтарытэт сярод вяскоўцаў. Акрамя таго, ставіць лагічныя пытанні і робіць простыя і такія ж лагічныя высновы. І ў суседніх Аўцюках ёсць такі самы дзядзя Віця. І гэтыя дзядзі Віці — па ўсёй Беларусі — падобныя на вірусы, якія мусяць зламаць сістэму. У нейкай будучыні нас чакаюць змены.

А можа, гэта толькі мае мроі, маё беларускае чаканне, што ўсё само зменіцца. Бо я таксама трохі *second-hand*.

**Андрусь Горват, Belsat.eu**








СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**7 лістапада, у дзень бальшавіцкага перавароту, берасцейцы ўсталявалі памятны крыж у Курапатах. Асвяціў крыж і справіў памінальную малітву грэка-каталіцкі святар з Брэста Ігар Кандрацьеў. Крыж усталяваны ў памяць аб закатаваных у Курапатах ахвярах, якія паходзяць з Брэстчыны. Сродкі на ўсталяванне крыжа збіралі грамадой. Да збору далучыліся як грамадскія актывісты і бізнэсоўцы з Брэста, так і прадстаўнікі розных рэлігійных канфесій.**




**«Крамбамбуля» дала ў Вільні канцэрт. На яго з Беларусі прыехала 3 тысячы чалавек. Новы альбом «Чырвоны штраль» атрымаў назву ў гонар віленскай кавярні пачатку XX стагоддзя, дзе сустракаліся дзеячы беларускага адраджэння. На канцэрце было шмат нацыянальнай сімволікі, бел-чырвона-белых сцягоў. Танцпляц быў запоўнены цалкам.**



**Будынак былой каталіцкай капліцы (№25/4 па вуліцы Урыцкага ў Віцебску), пабудаванай у 1859 годзе, знясуць, бо няма грошай на яго рамонт. Капліца была пабудаваная коштам паноў Дуніных-Слепсцяў з дазволу ўлады і асвечаная ў 1860 годзе дэканам Гайжэўскім у гонар Найсвяцейшай Маці Божай Балеснай, успамін якой адзначаецца 15 верасня.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Калоны Ратушы ў Мінску ўпрыгожылі арнаментам у чырвона-зялёнай гаме.**



**У цэнтры Калінінграда вецер ператварыў «Расію» ў «ЗША». Чырвоныя літары на плошчы Перамогі, што абвяшчаюць пра будучы ЧС-2018, пацярпелі ад штармавога ветру. У выніку слова «Russia» ператварылася ў «USA».**



## Анекдоты і жарты

* * *

Доктар у паліклініцы ў Шабанах звычайна пытаецца:

— Скаргі ёсць? А калі знайду?

* * *

Часам хочацца ўсё кінуць і з'ехаць. Але сядзець яшчэ пяць гадоў.

* * *

– Люся! Класная кашуля!

– Дзякуй, гэта мне санітары падаравалі.

* * *

Мама пра дзяцей:

— Калі абдымаю сына, то адчуваю мужчынскае плячо. Калі абдымаю дачку ... адчуваю ... духамі маімі пшыкаецца...

* * *

Перасунуў канапу да іншай сцяны, таму што там разетка.

Дадаў у рэзюмэ: «Спецыяліст па інтэр'еры».

* * *

— У пачатку XX стагоддзя навукоўцы прадказвалі, што ў 2015 годзе не будзе дарог і машыны будуць лётаць.

— Ну, у Расіі першы пункт плана выканалі.

* * *

Толькі збярэшся разбагацець — то за кватэру плаціць трэба, то чаравікі парвуцца.

* * *

Суседка зверху так гучна выхоўвала сваё дзіця, што я таксама прыбраўся ў пакоі і апрануўся цяплей.

* * *

Разумная жанчына ніколі не крычыць на мужчыну. Загады аддаюцца спакойна, выразна і ясна!

## «НН» сто гадоў з вамі

**1 лістапада** ў вядомага беларускага дзеяча Антона Луцкевіча па загадзе II аддзелу арміі «Сярэдняй Літвы» зроблены ў кватэры вобыск. Узятыя розныя рукапісы, брашуры і г.д. Пасля напісання пратаколу грамадзяніну Луцкевічу было заяўлена, што ён арыштаваны, і яго пад канвоем адправілі ў II аддзел, дзе пратрымалі ўвесь дзень. Толькі позна ўвечары яго выпусцілі на волю, абавязаўшы падпіскай не выязджаць з Вільні і на кожын выклік яўляцца ў дэфензіву.

**«НН». №3. 1920.**

**Дух свежай падземкі.** Адкрытыя станцыі метро «Спартыўная», «Кунцаўшчына», «Каменная Горка». Наземны рух перакрыты. Цягнікі ідуць толькі да «Пушкінскай». Зачыненыя ўваходныя дзверы з вуліцы на новыя станцыі, людзі не могуць карыстацца нават падземнымі пераходамі. На платформе метро «Каменная Горка» чакаюць Аляксандра Лукашэнку.

**«НН». №42. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 10.11.2015.
Замова №4345.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15042